



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714






http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl



№ 03 (2905) Год LVII | Беласток, 15 студзеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Традыцыя ў Шчытах

**У першым годзе дзейнасці Цэнтра адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах зроблена многа. Ладзіліся спектаклі, канцэрты, выстаўкі, арганізаваліся спатканні з вядомымі мастакамі, гісторыкамі і іншымі цікавымі людзьмі, праводзіліся майстар-класы, у час якіх маладыя людзі знаёміліся з тэатральнай справай ці з нашай традыцыяй, вучыліся даўнім песням, танцам, народнаму мастацтву. 22 снежня 2011 г. быў арганізаваны апошні ў мінулым годзе майстар-клас — па іконапісанні, у якім прынялі ўдзел вучні пятага і шостага класаў Падставовай школы ў Нарве.**

У час сустрэчы дзеткі знаёміліся з тым, што самае важнае ў правільным разуменні іконы і зручнай ім тэхнікай паспрабавалі самастойна выканаць сімвалічныя іконы Божага Нараджэння. Усё гэта адбывалася перад святамі Раства Хрыстовага ў рамках праекта „Традыцыя, сучаснасць, будучыня”. Яго каардынатар Іаанна Стэльмашук удакладніла, што раней у рамках праекта маладыя людзі з дапамогай разьбяра Уладзіміра Наўмюка вучыліся рэзаць па дрэве, з Зояй Майстровіч вучыліся саломапляценню, знаёміліся з нашымі традыцыямі і народнай творчасцю. Анна Фіёнік вучыла народным танцам і даўняму традыцыйнаму спеву. Выступіў таксама Зміцер Вайцюшкевіч. Марына Марчук знаёміла з велікоднымі традыцыямі, а Дарафей Фіёнік расказаў аб гісторыі Шчытоў і наваколля. Многа асоб сабралася таксама на спатканні з архімандрытам Гаўрыілам, які расказаў пра аздараўляльнае ўздзеянне зёлак, што растуць на лугах і ў лясах. Выкарыстоўваліся яны нашымі продкамі ў якасці лякарстваў. Зараз зёлкі прызабытыя нават пенсіянерамі, якія звыкліся ўжо карыстацца аптэчнымі лякарствамі. Цікавым было таксама перадапошняе мерапрыемства, наладжанае 17 снежня, у час якога была адкрыта выстаўка „Беларусы Падляшша — гісторыя і сучаснасць”, а Ілона Карпюк, Яўген Барышнікаў і Міхал Мінта разам з калектывам „Палудніцы” выступілі з асаблівым канцэртам у рамках музычнага праекта „Новы расказ пра калядку”. Гістарычную частку выстаўкі, якую зараз можна ўбачыць у Бельскім і Гайнаўскім белліцэях, падрыхтаваў прафесар Алег Латышонак, а сучасную інфармацыю — журналіст Аляксандр Максімюк. Карты, здарэнні, месцы і постаці з выстаўкі звяртаюцца да гісторыі і сучаснасці Падляшша з ухілам на беларускасць. Мультымедыйная прэзентацыя зрабіла выстаўку больш прывабнай.



Сімвалічная ікона Божага Нараджэння яшчэ перад замалёўваннем яе спецыяльна падрыхтаванымі фарбамі

— Мы з моманту адкрыцця Цэнтра (у сакавіку 2011 года — А. М.) увесь час многа робім, выходзім з прапановамі як да маладых, так і да старэйшых беларусаў са Шчытоў і навакольных мясцовасцей і да людзей іншых нацыянальнасцей, — сказаў кіраўнік Цэнтра адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах Ігар Лукашук, заадно віцэ-старшыня Звязу беларускай моладзі і віцэ-дырэктар Комплексу школ у Нарве.

— Людзі прыходзілі на нашыя сустрэчы, каб пазнаёміцца з гісторыяй Шчытоў, успомніць пра зёлкі, якія збіралі ў мінулым. Маладыя хацелі пазнаёміцца са старымі песнямі, танцамі ці павучыцца разьбярству, — сказала Іаанна Стэльмашук, якая наведвальнікам шчытоўскага цэнтра запамяталася як таленавітая акцёрка ў спектаклі „Я й у полі вярбою росла”.

## Правільна зразумець ікону

— Мы бачым іконы і часта не задумваемся дакладней над іх значэннем і выглядам, а ў іконе ж вялікая сімволіка, — заявіла Іаанна Стэльмашук, арганізатар майстар-класа па іконапісанні.

Іканапісныя занняткі вёў Грыгорый Пракапюк, выпускнік Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве і Іконаграфічнай студыі ў Бельску-Падляшскім, які ў Супраслі арганізаваў сваю студыю іканапісу і займаецца там таксама маляваннем карцін. Спачатку расказваў ён пра сваё іконапісанне, перад якім было выконванне графіці і маляванне. Гаварыў, як разумее ікону і на што трэба звяртаць увагу ў час яе пісання.

— У час пісання іконы не самая важная тэхніка працы, але зразуменне іконы і правільнае адчуванне таго, што будзем рабіць. Мы рашыліся, што вучні будуць пісаць ікону Божага Нараджэння, каб праз яе маглі адчуць правільнае значэння свята і яго атмасферу. Ікона ж павінна быць адлюстраваннем літургічнага тэксту, з якога чэрпае інспірацыю. У іконе няма нічога выпадковага, усё ўзятае з літургіі і Біблії, — тлумачыў Грыгорый Пракапюк.

Калі мастак пачаў расказваць вучням пра сваю дарогу ў духоўны свет, якая давяла да пісання ікон, выклікаў у маладых слухачоў вялікае зацікаўленне. Пачынаў жа ён ад графіці, якім займаецца таксама надалей, але ўжо легальна, затым маляваў карціны, а толькі пасля стаў пісаць іконы.

Дзеткі, пазнаёміўшыся з падставамі іканапісу, пачалі ад замалёўвання загадзя падрыхтаваных картак паперы з контурамі ікон пастэльнымі алоўкамі, а пазней — фарбамі. Ад свайго апекуна вучні даведаліся, што ў час пісання іконы важныя духоўнасць, засяроджанасць і спакой.

— У час пісання іконы самая важная малітва, каб праз яе напоўніць сябе пазітыўнай энергіяй, бо ў іконе ў нейкай ступені ёсць таксама адлюстраванне нашай духоўнасці. Важнае таксама адчуванне непамінаючага свету. Трэба старацца і вельмі хацець пісаць ікону як найлепш, а другараднай справай з'яўляецца ўжо самая тэхніка пісання, — расказваў Грыгорый Пракапюк. — Выконваючы графіці, адчуваў я павышэнне ўзроўню адрэналіну і эмоцый, а ў час пісання іконы — ахоплівае мяне суцішэнне, спакой і гэта як бы два светы.

Цішыня ў час працы вучняў сведчыла аб вялікай ангажаванасці маладых людзей у сваю работу і аб празе як найстаранней яе выканаць.

— Нашым вучням майстар-клас па іконапісанні цікавы. Дзеткі могуць навучыцца новаму, з чым яшчэ не сустракаліся ў школе. Вучням цікавая ўжо сама экскурсія, выезд на новае месца, знаёмства са шчытоўскім асяродкам і праца пад наглядам сапраўднага іканапісца Грыгорыя Пракапюка. Тут жа дзеткі даведаліся, што важнае ў час пісання іконы, якой тэхнікай і якімі колерамі трэба карыстацца, — гаварыла настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ у Нарве Ніна Абрамюк. — Я таксама многаму навучылася і апрача назірання за працай вучняў уважліва слухаю, аб чым гаворыць іканапісец, бо мы яшчэ з дзеткамі другога класа хочам на ўроку беларускай мовы паспрабаваць пісаць іконы.

Нават спадарыня Ніна Абрамюк спытала іканапісца, ці хустачкі на галоўках дзяўчатак гэта абавязковая вопратка падчас пісання ікон.

— Хусткі на галовах жанчын у час малітвы ці пісання ікон патрэбныя, каб тыя засяроджваліся на тым, што найважнейшае, а не думалі аб сваёй прычосцы ці вонкавым выглядзе. Калі дзяўчына не звяртае ўвагі на сваю прычоску і патрапіць забыць аб ёй падчас пісання іконы, можа рабіць гэта і без хусткі. У час пісання іконы і малітвы трэба таксама звяртаць увагу на цэлы свой выгляд, каб не адкрываць свайго цела ці не апранаць вопратку, якая прыліпае да цела і паказвае яго кшталты, бо гэта можа дэканцэнтраваць іншыя асобы, — тлумачыў Грыгорый Пракапюк. Пазней паінфармаваў, што з дапамогай яйка і віна трэба будзе выканаць эмульсію, якой будуць пакрыты іконы.

У час перапынку была добрая нагода паразмаўляць з маладымі іканапісцамі аб іх спадзяваннях і ўражаннях ад майстар-класа.

— Заняткі па іконапісанні вельмі файныя і цікавыя. Я раней яшчэ ніколі не прабавала пісаць ікону і таму рада, што магу гэта рабіць цяпер, — заявіла Оля Сіманчук.

— Усё, што мы тут робім, цікавае, бо гэтага раней не рабілі. Мне пісанне ікон вельмі падабаецца, — сказала Каміля Паскробка.

— У мяне дома ёсць іконы. Я раней сама хацела паспрабаваць пісаць іконы. Тут магу рабіць тое, што хацела, — гаварыла Наталля Комар.

Майстар-клас і астатнія сустрэчы ў рамках праекта „Традыцыя, сучаснасць, будучыня” ладзіліся з фінансавай падтрымкай Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі.





# Прыстрэлка Макарава

*Ну вось і дачакаліся. Нашы межы ўжо хоча бараніць іншая краіна. Генеральны штаб Расійскай Федэрацыі лічыць „тэрытарыяльныя прэтэнзіі Польшчы да Беларусі” пагрозай ваеннай бяспекі сваёй краіны. Пра гэта гаворыцца ў прэзентацыі начальніка Генштаба Узброеных сіл Расіі — першага намесніка міністра абароны Расійскай Федэрацыі генерала арміі Мікалая Макарава, якая размешчана на сайце Грамадскай палаты Расіі.*

*Пра тэрытарыяльныя прэтэнзіі Польшчы гаворыцца ўжо не першы раз у нашай самай найноўшай гісторыі. Гучала гэтая тэма нават з вуснаў першай асобы беларускай дзяржавы. Палякі апраўдваліся. Казалі, што падобныя меркаванні абсурдныя, бо Польшча, якая зараз ужо шчыльна ўпісалася ў карту Еўрасаюза, аніяк не зможа памяняць свае межы. Тым больш не свае.*

*А вось іх расійскія калегі настойваюць на сваім. І гэтую тэму гатовыя працягваць да бясконцасці. І тут можна паразважаць пра нядаўнюю беларуска-польскую гісторыю. Пра тое, дзе насамрэч знаходзіцца цэнтр Еўропы, і пра тое, чаму рыса, якая раздзяляе Еўропу і Азію па культуры і менталітэце знаходзіцца непадалёку ад гэтага цэнтра. І што адны дзеячы хочуць перасунуць гэтую рысу на ўсход ад цэнтра Еўропы, другія — на захад. Трэція жадаюць яе правесці прама па гэтым цэнтры. Можна паглыбіцца ў беларуска-польскую гісторыю больш далёка і зрабіць парутройку ці дзесятку выключаючых адна другую высноў.*

*Але галоўнае пытанне, якое прыходзіць у галаву пасля таго, як асэнсуеш гэтую інфармацыю, зусім не тычыцца Польшчы. Здзіўляе, чаму менавіта Расія падымае гэтае складанае пытанне. І востра пачынае цікавіць не столькі пытанне „чаму” яна гэта робіць, а пытанне „для чаго”.*

*Увогуле ў сённяшняй палітыцы пытання „чаму” ставіць не рэкамендуецца ні па адной тэме, бо яно адразу пускае разважанні недасведчанага палітыка і проста не часта думаючага чалавека па ілжывай дарожцы. Калі ставіць пытанне „чаму”, то можна неасцярожна адказаць, што Расія клапоціцца недатыкальнасцю межаў Беларусі таму, што нечакана для сябе і іншага свету ўспомніла, што яна з’яўляецца адной з краін-гарантаў беларускай незалежнасці. Але тады гэтыя высновы неяк не вяжуцца з жаданнямі кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі паглынуць Беларусь цалкам або часткамі. І гэтыя жаданні агучыў не п’яны расійскі абывацель, і нават не скандальны дэпутат Дзяржаўнай думы РФ Уладзімір Вольфавіч. Гэта заявіў сам цёзка таго знакамітага Вольфавіча, былы і будучы начальнік Расіі Пуцін.*

*Ды і генерал арміі Мікалай Макараў не асабліва клапаціўся незалежнасцю Беларусі, узняўшы гэтую тэму. Ён сказаў што „тэрытарыяльныя прэтэнзіі Польшчы да Беларусі” з’яўляюцца пагрозай ваеннай бяспекі менавіта Расіі. Вось так. Не больш, не менш. І пытанне „чаму” адпадае само сабой. Тут ужо нават пытанне „навошта” становіцца смешным. На першы план выходзіць пытанне „для чаго”.*

*І адказ просты. Для прымітыўнага і цынічнага абгрунтавання сённяшнім расійскім кіраўніцтвам сваіх дзеянняў па далейшай і рашучай анексіі Беларусі. І гэта чарговы крок пасля ўсіх выдзіранняў памежных слупоў на ўсходняй мяжы Беларусі, пасля ўтварэння мытнага саюзу і саюзнай дзяржавы, пасля продажу „Белтрансгазу” ды іншай маёмасці. Пасля замены нацыянальнай сімволікі і ўвядзення рускай мовы ў якасці дзяржаўнай. Пасля падтрымкі і ўтрымання менавіта гэтага рэжыму ў Беларусі, які кіруе зараз.*

*Расійскае кіраўніцтва ні на хвіліну не адмаўлялася ад сваіх планаў адносна Беларусі. І планава, і мэтна рэалізоўвае іх. І тут прыйшоў час задаць не рэкамендаванае пытанне „чаму”. Чаму Еўрасаюз, у адказ на стрэл генерала Макарава, не заяўляе, што пагроза незалежнасці Беларусі з’яўляецца пагрозай ваеннай бяспекі самога Еўрасаюза? Чаму іншыя гаранты незалежнасці Беларусі не ўспамінаюць пра свае абавязкі па абароне суверэнітэту беларускай дзяржавы?*

*Адказаў на пытанне „чаму” як заўсёды няма, або вядуць яны ў тупік. І пакуль іх не будзе, то генерал расійскай арміі Макараў і далей будзе прыстрэльвацца да цэнтра Еўропы. І не з пісталета Макарава.*

**Віктар САЗОНАЎ**



# А ну яго!

*Як штогод, я зачыніў шчыльна дзверы, вокны затуліў заслонкамі — такім чынам адчэкваю, пакуль міне цяперашні крызіс, які ў сваім драконскім і шматвектарным размнажэнні ад пачатку існавання свету трывожыць людзей. Найахвотней у першыя дні новага года. А ну яго! З нікім у той час я не кантактуюся, хіба што па тэлефоне. Вось, пазаўчора пазваніла мне мая сяброўка з Нью-Ёрка, учора — сардэчны сябра з Нарвегіі, а тыдзень таму іншы з Лондана з тым самым пытаннем: што ў мяне чуваць. „Ну, глабальны крызіс, — адказаў я згодна з праўдай”. „А ну яго, у нас тое ж самае!” — выкрыквалі мне сябры ў вуха. Я, аднак, не паддаўся. Калісь адзін знаёмы старэча даў мне дабратворную параду: „Крызіс? То ж без яго свет кульгае, а ну яго! А саланінку ты маеш?” — пацікавіўся дзед. „Не маю”, — адказаў я прысаромлены. „Ну дык купі. А цыбулю, бульбу? Калі не маеш, дык купі. І квашаную капусту. Неяк будзе. Я дзве вайны перажыў, то ведаю”.*

*Я паслухаў старажыла. Ад таго часу зачыняюся на пачатку кожнага года ў хаце і чакаю як штогадовы крызіс неяк міне. Бо што мае быць, тое і будзе. Неяк... будзе! Неабавязкова лепш, ды добра, што хоць неяк. Толькі што тое „неяк” муляе ад пачатку існавання людства і мяне таксама пачало на канец раздражняць. Не гаварыўшы пра гісторыю свету і Польшчы, ад яе гістарычнага рання да вынікаў Круглага стала, — пляцецца тое „неяк” у выглядзе польскага крызісу ва ўсёй сваёй напыхлівасці і дурнаце ўжо ад дваццаці з лішнім гадоў. Інакш мы тое ўсё сабе абяцалі! Не сумняваюся, аднак, у тым, што цяперашняя аванцюра з рэфундацыяй лякарстваў раней ці пазней кончыцца (неяк), мабыць тады, калі ўсе хворыя вымруць. Думаю таксама, што прэм’ер Туск перастане ўрэшце жангліраваць паміж добрымі намерамі родам з пекла і палітычным асекуранцтвам і зоймецца сур’ёзна рэформамі дзяржавы. Што-о-о-о? Што гэта лухта?! Хто на яго галасаваў, мае права гэтага патрабаваць. А хто не галасаваў, няхай не пацірае рук. Яго працаўнікі павінны таксама ўключыцца ў супольнае вылячэнне хворай сістэмы. Не адзін Туск спрычыніўся да яе калапсу. У Грэцыі, гляньце, усе партыі ўзяліся за супольную работу. Трохі запозна і, мабыць, спадчыннікі Сакрата будуць прымушаны выпіць цыкуту банкруцтва. Нічога, свет з-за гэтага не абрынецца. Можа і Еўропа таксама — ніколі ў сапраўднасці не з’яднаная — на канец збярэцца ў купу і хоць бы ў пару дзяржаў паспяхова схапіць за морды цынічных махераў з нью-йоркскага Уол Стрыт і лонданскага Сіці, якія не без ціхага дазволу кіруючых эліт аслабляюць еўрасаюзны крывацёк бяскарнымі атакамі на валюты з-па-за абарачэння еўра — такіх няўстойлівых на біржавыя спекуляцыі, што дае ў выніку аслабленне, напрыклад, польскага злотага, але і ўсёй еўрапейскай гаспадаркі. Пара кончыць з гэтай крывадушнасцю! Таму чакаю і не выходжу з хаты. То ж той крызіс не дакане свету, Польшчы ці маёй вёскі. Канец „неяк” не наступіць. Ведаем пра гэта ўсе. Таму што тое „неяк” мае ў сабе дзіўную энергію паўтораў.*

*Час ад часу вызіраю на свет праз акно, цікаўлюся, ці ён яшчэ ёсць. Ёсць! Бачу вось як мой найбліжэйшы і аднагодак мне сусед кожны дзень жвава выкараскваецца з хаты. Пасля, патупаўшы, пахрумкаўшы, падыходзіць да плота, азіраецца па баках і хаваецца назад у сваёй драўлянай ракавінцы дымлючай прагным дымам з коміна. Ды праз гадзіну-дзве выкочваецца назад. Можа, чакае аб’язную краму, можа, выглядае гасцей; або такі ягоны штодзённы рытм і сэнс жыцця... Аднак, не стаіць на месцы.. Бесперапынна кіруецца за паўтаральнасцю спакойных ды звычайных дзён, якія неўзаметку перакідаюцца ў святочныя. Тут трэба сказаць, што такая негістарычная паўтаральнасць змяшчае ў сабе боскі пункт! Таму што ніколі яна не пачалася, так як і ніколі не кончыцца. Затое дзень за днём паўтарае, nomen omen, дэкор змярканняў і світанкаў, з асаблівай і трансцэндэнтнай уявай святасці. А гэтым ёсць, а хай бы і ўяўное, услухоўванне ў спеў адраджаючагася ўвесну жаваранка, узіранне ў чалавечы цень, нічога, што коціцца ўсё ракавым колам паўтораў. Бо чаго ж больш хацець? Хай бы так і да канца свету! Толькі што колькі было гэтых канцоў? Усё роўна, як хвастом злога дракона-цмока са старых легендаў — зашмат. І якраз не для дракона, які нарадзіўся ў чалавечай — аднак драконскай — галаве. Заадно. А ну яго!*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Размеркавалі грошы



*Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі (МАіЛ) ды Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства размеркавалі грошы на сёлетнія культурныя мерапрыемствы, арганізаваныя нацыянальнымі меншасцямі. Больш ых неспадзевак, г.зн. змен у параўнанні да мінулагодняга размеркавання грошай, няма. Заадно міністэрства, як і Маршалкоўская ўправа пакінулі сумы датацыі больш менш на тым самым узроўні, пераважна на імпрэзы ўжо праверанrealistic. МАіЛ з ліку 480 заяў рэкамендавала да рэалізацыі 370 на агульную суму крыху больш за 13 мільёнаў 680 тысяч злотых (у гэтым ліку восем мэтанакіраваных датацый для СМІ, м.інш. на „Ніву” і „Czasopis” ды пяць мэтанакіраваных інвестыцый; будзе рамантавацца камяніца на вуліцы Варшаўскай 11, у якой месціцца сядзіба ГП БГКТ). У час аднаго з апошніх пасяджэнняў сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей дзяржсакратар МАіЛ Владзімеж Карпінскі тлумачыў:*

*— Мы будзем трымацца таго, каб у духу дыялогу і як найлепшых вырашэнняў працягваць тыя працы на наступны год так, як да гэтага часу, хоць здаецца, што не пры поўным задавальненні ўсіх, але напэўна ў духу ўзаемнай дружалюбнасці і разумення.*

*Аб недахопе задавальнення, прынамсі пакуль, можа гаварыць Беларускае аб’яднанне студэнтаў. Міністэрства не дало ім ні граша на сёлетні выпуск фестывалю „Басовішча” (летась перадало на гэтае мерапрыемства сур’ёзную фінансавую падтрымку ў суме 115 тысяч зл.). Усё з-за няправільнасцей БАС у разліках за папярэднія выпускі фестывалю. Канчаткова, аднак, не ўсё прадвызначана і нявыключана, што МАіЛ знойдзе яшчэ магчымасць дафінансаваць гэтую прэстыжную імпрэзу. Так ці інакш „Басовішча” мае сёлета адбыцца.*

*У сваю чаргу Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства агулам на ўсе мерапрыемствы ў галіне культуры (у гэтым ліку таксама рыхтаваныя меншасцямі) вылучыла 855 тыс. зл. на рэалізацыю 116 праектаў. Велічыня сум (так як і размеркаваных МАіЛ, незалежна ад таго, што ўзраслі кошты падрыхтоўкі імпрэз) падобная да мінулагодніх. І так, м.інш. на фестывалі царкоўнай музыкі, арганізаваныя Згуртаваннем аматараў царкоўнай музыкі і Фондам „Царкоўная музыка”, арганізатары атрымаюць сёлета па 30 тысяч зл. Мяркуючы па датацыях Маршалкоўскай управы, сёлета выйдзе манаграфія Гарадоцкай гміны (управа дала на гэтую мэту 4,5 тыс. зл.). Адбудуцца таксама летнія этнаграфічныя майстар-класы для дзяцей і моладзі „Я нарадзіўся тут”, арганізаваныя згуртаваннем АБ-БА (6,5 тыс. зл.), будзе дзейнічаць ягоны тэатральны гурток „Забава ў тэатр” (8 тыс. зл.) ды рэалізавацца праект „Падляшскія хронікі” (5 тыс. зл.) і надалей можна будзе сустракацца ў дыскусійным клубе згуртавання АБ-БА „Паразмаўляем аб...” (2,5 тыс. зл.).*

*Звяз беларускай моладзі атрымаў ад Маршалкоўскай управы 6 тыс. зл. на пастаноўкі цыкла спектакляў для дзяцей і моладзі на сцэне ў цэнтры ў Шчытах ды 14,5 тыс. зл. на правядзенне прамоцыі Падляшскага культурнага шляху „Дрэва і сакрум”. Таварыства беларускай культуры на дзейнасць аматарскіх мастацкіх калектываў атрымала 6 тыс. зл. (з пулькі МАіЛ на гэтую мэту — 85 тыс. зл.), а на дэкламатарскі конкурс „Роднае слова” — 4 тыс. зл. (з пулькі МАіЛ — 23 тыс. зл.). Урэшце БГКТ на сёлетні Агульнапольскі фестываль „Беларуская песня” атрымала ад маршалка 10 тыс. зл. (з пулькі МАіЛ — больш за 140 тыс. зл.).*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота
Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Гарадок




**У Гарадок заехаў я ў базарны дзень — у аўторак. На базары напярэдадні Каляд нічога спецыяльнага я не заўважыў. Праўда, цікава мне было, што там можа быць з сельскагаспадарчай прапановы, але толькі адзін чалавек прывёз збожжа, якім, як мне паказалася, ніхто не цікавіўся. Магчыма, што акурат гэта не сезон на парасят ці гусей, але хутчэй за ўсё базар адлюстроўвае стан мясцовай гаспадаркі. Бо ж і хто меў тыя сельскагаспадарчыя тавары прапанаваць, калі вялікая частка навакольных палёў зарастае чым толькі прырода дазволіць. Камерсанты прапанавалі крыху вопраткі, крыху абутку ды яшчэ крыху ўсялякай драбязы. Не быў я ў Гарадку ні ў геркаўскія 1970-я гады, калі „Польшча расла ў сілу", не быў таксама і ў разгар трансгранічнага гандлю 1990-х гадоў, але можна сабе хіба ўявіць, што тадышнія базары выглядалі намнога цікавей, што прапанова і зацікаўленне ёю былі буйнаколерныя. Цяпер базар у Гарадку паказаўся мне даволі шэраватым і, ад сябе кажучы, не надта адрозным ад падобных устаноў у, напрыклад, Беластоку або Гайнаўцы, толькі ў адпаведна меншым маштабе. Пакупнікоў была памяркоўная колькасць і яны, як мне паказалася, прыйшлі туды дзеля распрастання касцей, дзеля абмену навінамі. Яны яшчэ шматмоўныя, а больш агульна кажучы — шматкультурныя.**

З базару падаўся я ў бок іншага месца, таксама — як і базар — прымеркаванага для масавых мерапрыемстваў — на зарэчанскі вадаём, каля якога амфітэатр, а крыху далей і спартыўны комплекс. Вядома, пачатак студзеня гэта таксама не сезон на каратанне часу над вадою. Але ўсё ж такі сёе-тое можна было там пабачыць і то ў даволі сюррэалістычным аспекце. Бо той штучны вадаём не для купання, у летні час таксама. Гэта такая большая грунтавая пасудзіна, дзе на ваду можна толькі паглядзець. Гэта штосьці накшталт банак з чыстым паветрам, якія ў шырокасветных вялікіх гарадах прадаюць, каб іх жыхары маглі ў хвілінку панюхаць пазагарадскі арамат. Дарэчы, цікава мне, дзе цяпер гарадоцкае насельніцтва можа пакупацца, бо мяркую, што раней вышэйзгаданых геркаўскіх гадоў магло яно купацца ўсюды.

За амфітэатрам у даволі выпадковым месцы пастаўлены шлагбаўм. І той невядома для якіх мэтаў пастаўлены шлагбаўм — пад замком! Мабыць, гэта нейкага роду загадка для аматараў галаваломак... І яшчэ адна асаблівасць, зараз за тым шлагбаўмам — будынчак з кідкім чырвоным надпісам на белай сцяне






„TUTAKA". Слова гэтае з мясцовай лексікі, але мае яно прыхаванае ў сабе, апрача агульнага, і даволі канкрэтае тамака значэнне, своеасаблівы bonus знаўцам мясцовай гаворкі. Бо калі ў каго з удзельнікаў масавага мерапрыемства ўзнікне даволі пільная сарамлівая патрэба, хопіць, нікога не распытваючы, не паведамляючы пра сваю праблему, убачыць кідкі надпіс, які інфармуе, што менавіта тутака... На самім даху будыніны шыльдачка, не так ужо кідкая, з дзвюма літарамі „WC"...

З другога боку Гарадка карціна менш вясёлая: зарастаючая рознай расліннасцю памятка індустрыяльнай даўніны Гарадка — апусцелыя будынкі былой трыкатажнай фабрыкі „Karo". Зараз корпус фабрыкі „Karo" нагадвае казачную зачараваную спячую каралеву, але наўрад ці знойдзецца калі нехта, хто яе адчаруе... Слоўнік Брокхаўза і Эфрана паведамляў, што ў Гарадку пражывала „жит. 8907" (мабыць гэта друкарская памылка, пэўна было ў Гарадку не 8907, а толькі 1907 душ — А. В.) і было там „12 фабр. сук. с 244 раб. с производ. на 103410 р.". Верагодна гэтая статыстыка адносілася да 1880-х гадоў, бо ўжо ў 1890 годзе, як паведамляе Анна Радзюкевіч у манаграфіі Гарадоцкага прыхода, „czternaście mechanicznych zakładów tkackich zatrudniało w Gródku 265 osób, w ciągu następnych dwudziestu lat liczba fabryk wzrosła do dwudziestu dwóch, a robotników do 576", а лік насельніцтва падходзіў пад 1900 душ.

Сляды гарадоцкай прамысловасці памаленьку закрывае час, гэтак жа ідзе на спад іншая галіна тамашняй матэрыяльнай вытворчасці — земляробства. Сімвалы матэрыяльнага мінулага Гарадка заступіў сімвал духоўнасці. Гарадоцкая царква бачыцца мне ў Гарадку адпаведнікам Эйфелевай вежы ў Парыжы. Яна дамінуе над навакольным, яшчэ адкрытым, гарызонтам, напрыклад імпазантна відаць яе ад Новай Волі. Будавалі яе доўга, звыш дваццаці гадоў; пачалася будова ў 1946 годзе, а ўрачыстае асвячэнне храма адбылося ў 1970 годзе. Увасабленнем яе будаўніцтва стаў а. Уладзімір Дарашкевіч, пазнейшы мітрапаліт Васілій, якога карані з Гарадоцкай зямлі, з Меляшкоў і самога Гарадка. Мудрасць і працавітасць унаследаваў ён менавіта ад іх. Яго бацька на сынаву адукацыю ў Віленскай духоўнай семінарыі прысвяціў амаль усю сваю немалую маёмасць. Пазней сам а. Уладзімір прысвяціў усе свае сілы пабудове гарадоцкага храма; калі б не ягоныя руплівасць і добры прыклад прыхаджанам, царква ў Гарадку выглядала б сёння намнога інакш.

Ранейшая гарадоцкая царква згарэла ў час апошняй вайны, следам за неадлеглай сінагогай, якую падпалілі немцы. У якасці памяткі мясцовага царкоўнага мінулага захаваўся звон, выліты ў Расіі ў 1899 годзе, які пазней служыў роўныя сто гадоў, да 1999 года, калі ў ім з'явілася трэшчына. Раней трэшчына з'явілася ў мясцовым гаспадаранні. Крыху песімістычна выглядаюць цяпер гарадоцкія справы, аднак трэба мець надзею, што ўсё ж такі тутака (ці тамака — залежна ада пункту гледжання) грамадскія працэсы зменяць свой вектар і Гарадок чакае больш аптымістычная будучыня.





## Драўляныя дамы

Паўвеку таму ў маёй роднай вёсцы Новае Ляўкова (Нараўчанская гміна) усе дамы былі драўляныя з двухскатнымі дахамі, з маленькімі акенцамі ў шчытах. Усе — апрача аднаго-двух — былі пакрыты шэрай або аранжава-ружовай чарапіцай. Дзве хаты доўгі час мелі саламяныя стрэхі. Шчытамі стаялі пераважна да вуліцы.

Прыгожыя драўляныя дамы мелі Сяргей Семаковіч, Андрэй Болбат, Мікалай Пучынскі, Пятро Саевіч, Уладзімір Целушэцкі, Павел Галубоўскі, Міхал Жукоўскі і Парфен Красноўскі. З гэтых дамоў няма ўжо двух — Ул. Целушэцкага і С. Семаковіча.

Як вядома, драўляныя дамы былі прыязныя для чалавека. Яны ствараюць своеасаблівую атмасферу і настрой, добрае самаадчуванне. Гэтыя будынкі зараз у пашане. Кажуць, што яны найбольш спрыяльныя для чалавека, для яго здароўя.

У салэцтве Новае Ляўкова ёсць 43 драўляныя дамы, у тым ліку 7 з ганачкамі. Ад 1965 года разабралі іх 19. Няма ўжо студняў з жураўлямі. Хто сёння з маладых новаляўкоўцаў ведае, дзе стаялі хаты Закшэўскіх, Палэцкіх, Зосі Янюк, Трахіма Несцерука, Уладзіміра Целушэцкага, Канстанціна Скепкі (каваля), Міхала Баканача, Пятра Жукоўскага і Якуба Леўчука? Няма гэтых людзей у жывых, няма іхніх дамоў.

Вобраз ужо неіснуючых хат і дрэў пры іх я захоўваю ў сваёй памяці. Я, калі быў падлеткам, заходзіў у гэтыя хаты. Зараз прыгадваю постаці састарэлых аднавяскоўцаў, а то ліпы, а то бярозу і вярбу ля іх хатаў. Садзілі яны шмат пладовых дрэў. Старыя яблыні і грушы растуць яшчэ і цяпер пры васьмі хатах. Яшчэ трымаюцца. Яны напамін даўняга.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Па гарачых слядах

У Нараўцы (Гайнаўскі павет) ёсць два прыпынкі аўтобусаў ПКС. Адзін з іх — ён каля гміннага асяродка здароўя (ГАЗ) — існуе больш года. Стаіць тут жалезны слуп з эмблемай ПКС. Час бяжыць, а вадзіцелі аўтобусаў раз прытрымліваюцца каля ГАЗ, іншым разам не. Не памагаюць просьбы нават хворых пасажыраў, якія едуць да лекара і хацелі б сысці на прыпынку каля асяродка здароўя.

Я шмат разоў звяртаўся да войта Нараўчанскай гміны, каб ён паінфармаваў кіраўніцтва Прадпрыемства ПКС у Беластоку, што шафёры не затрымліваюцца на новым прыпынку ў пачатку Нараўкі. Калі я быў радным, выступаў з інтэрпеляцыяй на сесіях Гміннай рады, і зараз — як солтыс Новага Ляўкова.

І вось еду я 29 снежня 2011 года а гадзіне 9.30 у Нараўку. Едуць да лекара дзве жанчыны са Старога Ляўкова. Яны папрасілі вадзіцеля аўтобуса беластоцкага ПКС, каб спыніўся каля асяродка здароўя. Шафёр толькі яшчэ дадаў „газу” і памчаўся далей. Што гэта такое дзеецца з ПКСаўскімі панамі за рулём? Чаму ў іх такія фанабэрыстыя адносіны да пасажыраў? На гэтыя пытанні чакаем адказу ад шэфа ПКС Беласток Дар'юша Война (ён кіруе прадпрыемствам ад 10 снежня 2011 года) або намесніка старшыні ПКС — Юзафа Кліма (апошні з іх — ад 2 студзеня 2012 года). **(яц)**

**Наступіў чарговы год працы тэрытарыяльнага самакіравання. Ці новавыбраныя самаўрады апраўдалі спадзяванні выбарцаў і рэалізавалі тое, што абяцалі ў час выбарчай кампаніі? На гэтае пытанне паспрабуйма адказаць на прыкладзе Кляшчэляў. Гарадскую раду наведаў я 2 студзеня г.г.**

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Год інтэнсіўнай працы

**— Скажыце, калі ласка, — звяртаюся да бурмістр Ірэны Негярэвіч, — як ацэньваеце мінулы год?**

— Глядзеўшы з грамадскага пункту гледжання, — гаворыць спадарыня бурмістр, — мінулы год лічу ўдалым. Для нас быў гэта год інтэнсіўнай працы. Нягледзячы на сціплы бюджэт, рэалізавалі мы намечаныя задачы.

**— Якім бюджэтам тады карысталіся і колькі выдаткавалі на інвестыцыі?...**

— Трэба адзначыць, — канстатуе субяседніца, — што праект бюджэту на 2011 г. рыхтавала папярэдняя Рада горада. Аднак быў ён адхілены Рэгіянальнай разліковай палатай, паколькі не хапала мільёна злотых на рэалізацыю планаваных задач. Патрабавалася карэктура. Прад'явілі мы затым заяву ў Ваяводскі фонд аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі, каб прызначылі нам прамежкавы крэдыт на апярэджваючыя інвестыцыі. Заява была прынята і бюджэт пасля папраўкі быў адобраны. Канчаткова на баку прыбыткаў склаў ён суму 9 640 471 зл., на баку выдаткаў — 11 044 572 зл. Дэфіцыт у памеры 1 404 572 зл. быў пакрыты банкавым крэдытам (1 378 060 зл.) і вольнымі сродкамі (26 041 зл.). Калі справа тычыцца інвестыцыі, — працягвае бурмістр, — дык назву важнейшыя.

Асноўнай задачай быў працяг пабудовы санітарнай каналізацыі ў абшары Кляшчэлі — Дабрывада. Кошт згаданай інвестыцыі складаў суму 3 812 679 зл. Задача рэалізуецца еўрасаюзнай Праграмай развіцця вясковай прасторы ў 2007-2013 гадах. Пачалі яе рэалізаваць у 2010 годзе, а прадбачваем закончыць у лістападзе 2012 г. На гэтую мэту гміна атрымала з Ваяводскага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі крэдыт у памеры 2 300 000 зл., ды дадатковы мільён зл. атрымалі ў чэрвені 2011 г. у якасці прамежкавага крэдыту на апярэджваючыя задачы. У рэалізацыі інвестыцыі пакарыстаемся еўрасаюзнымі сродкамі ў суме 2 325 331 зл.

Чарговай задачай была перабудова вуліц Цяснай, Касцюшкі, Каперніка, Свярчэўскага і Міцкевіча. На рэалізацыю гэтай інвестыцыі 19 мая 2011 г. была падпісана дамова з падляшскім ваяводам Мацеем Жыўнам у справе дафінансавання сродкамі з дзяржаўнага бюджэту. Кошт інвестыцыі — 654 367,88 зл. Палова сродкаў, г.зн. 327 183 зл., паступіла з дзяржаўнай касы, апошняе 50% дабавіла гміна. Таргі выйграла фірма „Максбуд” з Бельска-Падляшскага. У выніку прац была перабудавана маставая даўжынёю 1,45 км і пракладзена 1,47 км новых тратуараў. Работы закончыліся ў верасні 2011 г. Задача рэалізавалася ў рамках шматгадовай „Нацыянальнай праграмы перабудовы лакальных дарог 2008-2011”.

6 ліпеня 2011 г. была падпісана дамова з выканаўцамі на выкананне спартыўнага стадыёна „Орлік-2012”. Прадбачваны кошт — 1 113 250 зл. (прынятыя для рэалізацыі пасля таргоў — 1 073 850 зл). На гэтую мэту Маршалкоўская ўправа прызначыла 333 000 зл. і пакарысталіся мы паўмільёнам дзяржаўнай датацыі. Была пабудавана пляцоўка для футбола памерамі 30 м х 62 м., шматфункцыйная пляцоўка для валейбола і баскетбола памерамі 19,1 м х 32,1 м і санітарна-гардэробны будынак памерамі 60 кв. метраў. Стадыён атрымаў поўнае электрычнае асвятленне. Здадзены ён у карыстанне напрыканцы снежня.



Бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч

У мінулым годзе закончылі мы рамонт святліцы ў Дашах (пачыналі ў 2010 г.), — працягвае бурмістр Ірэна Негярэвіч. — Кошт задачы — 136 054,19 зл., прытым пакарысталіся еўрасаюзным дафінансаваннем 55 000 зл. Таргі выйграла фірма Кшыштафа Болтрыка з Беластока. У будынку змянілі дах, аконную ды дзвярную сталярку, столь і падлогу, электраправодку ды пафарбавалі сцены звонку і ўнутры. Будынак здадзены быў у карыстанне ў ліпені мінулага года.

У рамках Праграмы развіцця вясковай прасторы ў 2007-2013 гадах рамантавалі святліцу ў Тапарках. Кошт задачы — 134 431,45 зл. Дафінансаванне ЕС склала 80 170 зл. Выканаўца — паслугова-гандлёвая фірма Кшыштафа Болтрыка з Беластока. Рамонт тычыўся змены даху, дзвярной і аконнай сталяркі, падлогі, электраправодкі і сантэхнічнага абсталявання, уцяплення сцен і столі ўнутры вогнеўстойлівымі плітамі. Святліца здадзена ў карыстанне ў верасні мінулага года.

Пабудова будынка з санітарнай базай для абслугі Рэпчыцкага вадаёма каштавала 522 833,29 зл. Фінансавая падтрымка ЕС склала 270 624,00 зл. Атрымаўся аднапавярховы дом з электраправодкай, электрычным ацяпленнем, водаправоднай сеткай і санітарна-каналізацыйным абсталяваннем. Унутры мужчынскі і жаночы туалеты, умывальны пакой для асоб з фізічнымі абмежаваннямі, душы для жанчын і мужчын, сацыяльна-адміністрацыйнае памяшканне для персаналу ды памяшканне для гаспадарча-складской базы. Выканаўцам работ была фірма „Майка” Марыі Дземянчук з Сямятыч. Задача рэалізавана была ў 2010-2011 гадах.

Арганізаванне пазычальні і камеры захавання веласіпедаў з агародчыкам для адпачынку пры Цэнтры турызму і культуры „Гладышка” — кошт задачы 36 293,58 зл. Дафінансаванне ЕС — 20 654,88 зл. Выканаўца — Рамонтна-будаўнічае прадпрыемства Лявона Якімюка з Гайнаўкі.

Мадэрнізацыя павятовай дарогі з Кляшчэляў у Палічну і вуліцы Белавежскай — гэтая задача рэалізавана была Праўленнем павятовых дарог у Гайнаўцы. Кошт інвестыцыі — 791 126,98 зл., уласны ўклад гміны — 206 039 зл. Дарога была здадзена ў карыстанне ў верасні 2011 г.

Гэта асноўныя задачы, якімі займаўся новы наш самаўрад у першым годзе свайго кіравання, — завяршае бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч. — Магу адно зараз сказаць: што задумалі і абяцалі, тое і выканалі...

**— А якія задачы прадбачваюцца ў гэтым годзе?**

— Асноўная — заканчэнне пабудовы санітарнай каналізацыі ў абшары Кляшчэлі — Дабрывада. Лічу, што з задачай справімся тэрмінова. Зоймемся таксама рамонтам святліцы ў Залешанах. Дакументацыя ўжо апрацавана і праект адобраны. 20 ліпеня 2011 г. была падпісана дамова на дафінансаванне. Кошт інвестыцыі складзе суму 232 901,53 зл. прычым пакарыстаемся падтрымкай ЕС у памеры 143 177 зл. Заканчэнне рамонту прадбачваецца на ліпень гэтага года.

**— Чаго пажадалі б Вы сабе і жыхарам гміны ў наступаючым годзе?**

— Моцнага здароўя, самых лепшых поспехаў у працы і сямейным жыцці, а перш за ўсё належнага супрацоўніцтва з гмінна-гарадскім самаўрадам, што паўплывае на фармаванне станоўчых міжлюдскіх суадносін у мясцовым асяроддзі.

**— Дзякую за размову і жадаю поспехаў.**

# Гісторыя песні пра трактарыста Колю

Віталь ЛУБА

**На Беласточчыне папулярнасцю карыстаецца руская песня пра трактарыста Колю, якога немцы аблілі бензінам і падпалілі, а якога Маруся чакала і не магла дачакацца. Песню гэтую можна пачуць пры застоллі, па радыё, на сайце www.youtube.com, выконваецца яна інструментальна-вакальнымі гуртамі. Змест указвае, што песня ўзнікла ў час другой сусветнай вайны. Аказваецца, аднак, што ў песні больш доўгая гісторыя і яе першапачатковым героем быў не трактарыст Коля, толькі камсамолец Пётр — энергічны арганізатар калгасаў у Сібіры.**



Уся гісторыя пачалася ў жніўні 1929 года, калі лакальная газета, а за ёю цэнтральная „Комсомольская правда” апублікавалі нататку „Вогненны трактарыст”. Паведамлялася ў ёй, што ноччу 2 ліпеня 1929 г. на 17-гадовага Пятра Дзьякава, члена калгаса „Новы пуць” у вёсцы Усць-Ламенскае Цюменскай вобласці, калі той араў калгаснае поле, напала шайка кулакоў. Трактарыста сцягнулі з машыны, распранулі, па-зверску збілі, потым аблілі керасінам і падпалілі. Вестку падхапілі іншыя цэнтральныя выданні і радыёвяшчанне. Трагічная гісторыя юнага камсамольца ўскалыхнула грамадствам, а камсамольскі паэт Іван Малчанаў (1903-1984) неадкладна напісаў верш-паэмку „Дьяков Петр” і прачытаў яго Сталіну. А пачынаўся ён так:

*Колосилась в поле рожь густая,*
*Шевелились усики овса,*
*Где-то за деревней замирая,*
*Девичьи звенели голоса.*
*Где-то переборами тальянки*
*Песня угасала на ветру...*
*В эту ночь ему не до гулянки,*
*Трактористу Дьякову Петру.*
*В эту ночь его не занимала*
*Любушка из ближнего села:*
*Полоса невспаханной лежала,*
*Молодого пахаря ждала.*

Навяаўлены камуністычны пакутнік Пётр Дзьякаў стаў героем будаўнікоў калгаснага ладу, а яго імя трапіла на сцягі, пад якімі партыя вяла наступленне на сялян-аднаасобнікаў.

У 1930-я гады паэмка Малчанава карысталася вялікай папулярнасцю. Радкі пра „вогненнага трактарыста” гучалі са сцэны ў выкананні прафесійных артыстаў, трансляваліся па радыё, вучні вывучалі іх на памяць. На фрагменты верша ўзніклі дзве апавядальна-лірычныя песні: „Прокати нас, Петруша...” і „Колосилась в поле рожь густая...”. З цягам часу паўставалі розныя варыянты гэтых песень, асабліва апошняй, якую сталі лічыць народнай.

* * *

У народнай творчасці злучэнне некалькіх тэкстаў і мелодый у адным песенным варыянце — з’ява нячастая, але існуючая. У песні-пераробцы часоў апошняй вайны „комсомольца Дьякова Петра” замяніў „тракторист Коля” які „поехал в город по бензин”, а „кулацкую засаду” — немцы, якія „керосин в руках держали, тракториста Колю подожгли”. Складальнікі балады выкарысталі пры гэтым першую і трэцюю частку верша Малчанава, змяніўшы яго зачын і больш лаканічна пераказаўшы тэкст. На Украіне на тую ж самую мелодыю і падобныя словы вядомая песня пра трактарыста Васю.

* * *

Аднак Пётр Дзьякаў, славуты „вогненны трактарыст”, не загінуў. Калі ў 1990-я гг. адкрыліся архівы ФСБ, высветлілася, што ўся гэтая гісторыя з нападзеннем кулакоў была містыфікацыяй.

Развеяць міф аб Пятры Дзьякаве запатрабавалі жыхары Галышманскага раёна, у якім ён жыў і працаваў. У лісце ў абласную газету напісалі, што Дзькаў салгаў, што ніхто на яго не нападаў. Пісьмо было перададзена ў рэгіянальнае ўпраўленне ФСБ з мэтай высвятлення справы. З архіўных дакументаў вынікае, што суд над выдуманымі злачынцамі, якія мелі падпаліць юнага трактарыста, адбыўся ў горадзе Ішым, аднак па прычыне недаказанасці працэс быў спынены, а падазроныя былі адпушчаны на волю. З паказанняў аднаго з галоўных сведкаў — старшыні калгаса „Новы пуць” даведваемся, што Дзьякаў сімуляваў. Па прычыне сваёй нявопытнасці, пры аглядзе рэзервуара з керасінам пры дапамозе запалкі наступіў выбух, ад чаго загарэліся вопратка і трактар, атрымаліся апёкі. 17-гадовы юнак пабаяўся, што яго абвінавацяць у наўмысным знішчэнні калгаснага трактара, які быў канфіскаваны ў заможнага селяніна, і таму вырашыў зваліць віну на „кулакоў”.

Але савецкай уладзе праўда была непатрэбная. Ёй былі патрэбны пакутнікі для расправы з сялянствам. Містыфікацыя была выкарыстана для прапаганды калектывізацыі і трывала замацавалася ў савецкай традыцыі.

А лёс сялян, якіх ілжыва абвінавацiў Дзьякаў, склаўся трагічна, нягледзячы на апраўданне судом г. Ішыма. 1 лютага 1930 г. ішымскае АДПУ завяло справу № 6634 па падазрэнню 36 асоб кулацкага элемента Усць-Ламенскага раёна ў падрыхтоўцы ўзброенага паўстання і масавай агітацыі супраць савецкай улады па вёсках. У лік падазроных папалі ўсе людзі, якіх раней абвінавачваў Дзьякаў. 25 красавіка 1930 г. усе праходзіўшыя па справе № 6634 былі прыгавораны да расстрэлу і лагероў. Не засталося нікога, хто мог бы паклікаць да адказнасці „вогненнага трактарыста”.

Дзьякаў у 1931 г. выехаў з роднай вёскі на будову Магнітагорскага металургічнага завода. Аднасяльчане мяркуюць, што пабаяўся ён помсты з боку сямейнікаў тых, хто быў прыгавораны да расстрэлу. Усю вайну правёў за рулём грузавіка, пасля вайны працаваў у пасёлку Галышманава на хлебапрадуктовым камбінаце. Пeражыў яшчэ дзве хвалі зацікаўлення да сваёй асобы — у 1950-я гг., у эпоху асваення цаліны, калі прапагандыстам трэба было прыпомніць аб героях калектывізацыі, і ў 1970-я гг., калі Леанід Брэжнеў згадаў яго ў сваіх успамінах. Парадокс заключаўся ў тым, што ніхто не паставіў пытання як „вогненны трактарыст” выжыў.

У 1962 г. Пятру Дзьякаву ўручылі ордэн Леніна за цаліннвы подзвіг, хаця на цаліне ён не быў, а ў 1982 г. — ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі за калектывізацыю і воінскую доблесць. Герой, якога не было, пасля пяцідзесяці з лішнім гадоў працягваў атрымліваць узнагароды за подзвіг, якога не здзейсніў. Памёр ён у 1990 г. ва ўзросце 78 гадоў.

* * *

А песні, якія ўзніклі на словы паэмкі Івана Малчанава, і іх пазнейшыя разнавіднасці жывуць у народзе. Яны ж харошыя, лірычныя і меладычныя, нягледзячы на тое, што створаны былі ў жудасны і подлы час.

Пётр Дзьякаў, славуты „вогненны трактарыст”



### Коля тракторист

*Колосилась в поле рожь густая,*
*Шевелились усики овса.*
*Где-то за деревнею далёко*
*Девичьи звенели голоса.*
*Там работал Коля трактористом,*
*С девушкой Марусею дружил.*
*Часто он в любви ей объяснялся*
*И жениться всё ей говорил.*
*Не хватило у Коли керосина,*
*Он поехал в город по бензин.*
*Не успел он с горочки спуститься,*
*Показались немцы впереди.*
*Керосин в руках они держали,*
*Тракториста Колю подожгли.*
*Загорелось тело молодое,*
*А потом документы нашли.*
*А его все ждёт и поджидает*
*Девушка из дальнего села.*
*Полоса несжатая осталась, —*
*Тракториста Колю всё ждала.*
*Колосилась в поле рожь густая,*
*Шевелились усики овса.*
*Где-то за деревнею далёко*
*Девичьи уж смолкли голоса.*

## Навагоднія замалёўкі

Навагодні вечар рашыў я правесці ў сямейным крузе разам з дочкамі і ўнукамі. На адвячорку падаліся мы на машыне ў Беласток. Вуліцы Чаромхі, Кляшчэль і Бельска-Падляшскага ўпрыгожаны былі рознакаляровымі зіхатлівымі гірляндамі. Асабліва прэзентаваліся аздабленні на будынку Гарадской рады ў Кляшчэлях і на вуліцы Міцкевіча ў Бельску-Падляшскім. Дарожны рух на шашы А-19 пасля 17-й гадзіны быў памяркоўны. У Беластоку на Дайлідах — таксама. Не сустрэлі мы дарожнага паліцэйскага патруля. Шафёры вялі сябе культурна, хоць трапляліся адзінкі, якія парушалі прынцыпы дарожнага руху. Тычылася гэта як бравурнай язды, так і выпярэджвання ў недазволеным месцы, перасякаючы суцэльныя лініі. Мэтай нашага падарожжа быў пасёлак Пяста, а канкрэтна — вуліца Хробрага.

Да застолля заселі мы пасля дваццатай. Танцаў, праўда, не было, але сямейная атмасфера і гукі навагодняга канцэрта (на тэлеканале лічбавага Польсата) з Пляца Канстытуцыі ў Варшаве стваралі непаўторнае святочнае адчуванне. Калі мы апоўначы падымалі бакалы шампанскага і віншавалі сябе з наступаючым Новым годам, унукі пускалі феерверкі. Беласток патанаў у сотнях, тысячах рознакаляровых зіхатлівых агеньчыкаў. Гэтае відовішча доўжылася некалькі дзесяткаў мінут, хоць паасобныя феерверкі ўспыхалі як да поўначы, так і пазней. Адпачываць прыляглі мы каля чацвёртай раніцы. „Пад’ём” быў пасля дзевятай. І зноў святочны пачастунак, чарка віна і паваротнае падарожжа ў Чаромху. Выязджалі апоўдні. Рух на дарогах быў невялічкі. Вуліцы Заблудава, Бельска-Падляшскага і Кляшчэль здаваліся быць маўклівымі, быццам драмалі пасля навагодняга балю. Не працавалі крамы, за выключэннем „Аргелана” ў Чаромсе. Тут маркет бурліў штодзённым жыццём. Бізнес ёсць бізнес! Для нас гэта не мела большага значэння. Неабходную закупку зрабілі мы перад „Сільвестрам”. Зараз лічыўся адпачынак. Так вось вітаў я сёлета Новы год!

**Уладзімір СІДАРУК**

## Яшчэ адна святліца

У Нараўчанскай гміне ў кожнай другой вёсцы ёсць святліца. Дзейнічаюць яны, між іншым, у Гушчэвіне, Заблотчыне, Масеве, Ахрымах, Міхнаўцы, Старым Ляўкове і Тарнопалі. Іх рамантавалі і ў некаторых пабудавалі камінкі. Зараз зімою ля іх цёпла і яны ствараюць своеасаблівую атмасферу ды папраўляюць настрой.

Напрыканцы мінулага года ў Плянце рамантавалі драўляны будынак колішняй школы і ўїм адкрылі святліцу. Я яшчэ памятаю святліцу ў будынку чыгуначнага вакзала. У ёй наш ранейшы карэспандэнт Уладзімір Клімюк арганізаваў шмат культурных мерапрыемстваў. Тут адбываліся курсы на вадзіцельскія правы для матарызаваных. У святліцы дэманстраваліся кінафільмы — прыязджала кінаперасоўка. Шмат гадоў таму той будынак разабралі.

Як цяпер будзе ў Плянце? Ёсць чуткі, што неўзабаве пачне дзейнасць Гуртoк вясковых гаспадынь. Ён раней актыўна працаваў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)

зорка
для дзяцей і моладзі

# Падарак на Каляды

Кажуць, трэба нарадзіцца добрым. На свеце жыве шмат людзей, якія без прымусу і загадаў самі разумеюць сэнс дабрыні. І гэта ад дзіцяці...

У другі дзень свята Божага Нараджэння Агнешка ад рання да вечара хадзіла па горадзе і разам з сябрамі, у якасці валанцёркі, збірала грошы ў час Вялікага аркестра святочнай дапамогі.

Пасля цэлага дня працы на ветры і холадзе яна не адчувала стомы. Наадварот, у дзяўчынкі ад радасці свяціліся вочы!

— Многія людзі самі нас шукалі, каб укінуць у баначку грошы, — апавядае валанцёрка. — Шмат было крānальных момантаў. Адна пяцігадовая дзяўчынка сыпнула можа тры жмені грашакоў. Калі мы спыталі адкуль тая драбніца, яна адказала, што гэта яе ашчаднасці з цэлага года. Яна спецыяльна збірала грошы пад наш Аркестр. І сёння раніцай разбіла сваю скарбонку.

Добрыя ўчынкі часта сябруюць са сціпласцю, іх часта здзяйсняюць у таямніцы. Сама Агнешка, пра што даведаліся мы ад яе бабулі, аддала для Аркестра ўсе закалядаваныя дзень раней грошы. Усяго дзвесце трыццаць два злоты!



— Ты ўжо трэці раз працуеш валанцёркай у Вялікім аркестры святочнай дапамогі. Ці штосьці памянялася ў Тваім думанні пра дапамогу патрабуючым?

— Так, я пабачыла, што дабрыня і ахвярнасць не залежаць ад маёмаснага стану людзей, толькі ад іх характару. Адны людзі робяць гэта з вялікай ахвотай, іншыя быццам з мусу. Такая акцыя як Вялікі аркестр святочнай дапамогі ўплывае на характар людзей. Тыя, якія не любяць дзяліцца з іншымі, пад уплывам іншых становяцца лепшымі і таксама вымушаны падзяліцца з патрабуючымі. У гэтай перамене ёсць цэлая магія і файна, што яна адбываецца ў калядны перыяд, калі чалавек павінен адрадзіцца!

Вялікі аркестр святочнай дапамогі сёлета выпаў 8 студзеня, якраз у другі дзень праваслаўнага Божага Нараджэння. Зробленыя сродкі ў гэты раз дапамогуць заўчасна народжаным немаўлятам і матулям хворым дзяцям.

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа

### Наведанне

Сусед адведаў
Свайго суседа.
Глядзіць з недаверам,
Як ён вострыць сякеру.

— Навошта, — пытае, —
Сякера ліхая?
Сусед даў адказ:
— Хачу забіць час.

### У цырку

Малы тыгр першы раз
Бачыць цыркавы паказ.
На пачатку праграмы
Пытае ён сваю маму:

— Скажы, што гэта будзе,
Якія тут сядзяць людзі?
— Ты не бойся, дзіцятка,
Яны ўсе за краткай.

## Калядна-навагодні конкурс (3)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Як на Падляшшы называлі вечар да Новага года — 13 студзеня?**

*а) Маланка,*
*б) Сільвестра,*
*в) Гоготуха.*

**2. Якія стравы рыхтавалі нашы продкі пад Новы год?**

*а) банкух,*
*б) кішку і кутэнь,*
*в) шчолак.*

**3. З дапамогай якой хатняй птушкі нашы бабулі варажылі ў вечар да Новага года?**

*а) курачкі,*
*б) гускі,*
*в) цацаркі.*

**4. Якое мужчынскае імя выступае ў навагодніх шчадроўках (падказка: глядзіце беларускі каляндар „Нівы")?**

*а) Цімох,*
*б) Васіль,*
*в) Карп.*

Адказы дасылайце да 22 студзеня 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Рашэнне каляднага конкурсу № 12. У беларускай калядцы „Саўка ды Грышка" рыхтуюць да свята музычны інструмент дуду (в). Звычай строіць ёлку пад Каляды прыйшоў з Нямеччыны (в). Зімова-лясны краявід ад Семяноўскага вадасховішча выступае ў „Хроніках Нарніі" (в). Песні на словы Максіма Багдановіча было можна слухаць у тралейбусах у Магілёве (в). Узнагароды, кашулькі з лагатыпам „Зоркі", выйгралі Іна Севярын, Наталля Марчук з Нараўкі, Эльвіра Андрусевіч, Вікторыя Артэмюк з Бельска-Падляшскага, Адрыян Бугвін з Арэшкава. Віншуем!

ЗОРКА

## Навагоднія песні дзяцей для дзяцей!




Рэдка калі маем нагоду паслухаць беларускія песні ў выкананні дзяцей. Такія кампакт-дыскі вітаем як ластаўкі на ніве роднай адукацыі. Справа ў тым, што ў нас вялікая нястача рэпертуару на беларускай мове. Кожны настаўнік-самадзейнік зацікаўлены новымі музычнымі прапановамі.

Вось у дакалядны перыяд парадавалі нас тры кампакт-дыскі для дзяцей з дзіцячай музыкай. Іх каштоўнасць заключаецца ў падборцы твораў (частку песень напісалі вядомыя беларускія аўтары) і арыгінальным выкананні. Першы дыск — „З Новым годам"! Прапанаваны матэрыял — 27 твораў — датычыць каляднага перыяду. Тут, апрача песень у выкананні Адася Марафонава, Таццяны Грыневіч і Аляксея Крукоўскага, чытаюцца вершы і паданні (Юрась Жыгмонт), неадлучныя магічнай паравіне года. Слухаеш дыск і адчуваеш сябе быццам бы ў тэатры або ў казачным памесці Дзеда Мароза, што ў Белавежскай пушчы. На аснове паэтычна-музычнага матэрыялу можна таксама збудаваць сваю аўтарскую пастаноўку. Навагоднім, бадзёрым песням на дыску дапамагае фартэпіяна (Вольга Кашэвіч) і гукавыя эфекты. Ад цэласці астаецца прыемнае адчуванне свята, бачанае вачыма маладога калядніка! Прапанова можа здзівіць вас „свецкім" разуменнем каляднага перыяду, але такі падыход больш успрымальны ў Рэспубліцы Беларусь.

Кампакт-дыск „З Новым годам" можна набыць у нашай рэдакцыі (20 зл.).

*(праз тыдзень напішам пра іншыя дыскі)*

ЗОРКА

# Добры канец свету

*(легенда інкаў)*

Хаця ніхто з сучасных нашчадкаў інкаў не памятае таго здарэння, гэтую гісторыю ведаюць старыя і малыя жыхары Пэру. Спачатку прапалі на небе хмары. Пасля сталі высыхаць ручаі, рэчкі і азёры. Зямля, даўней багатая ў буйную раслінласць і пушчы, пачала замірацць. Разам з засухай мерлі як мухі людзі, звяры, расліны. Іх багі таксама заснулі каменным сном, і здавалася, што ўсяму ўжо капцы. Прыйшоў канец свету. Людзі, аднак, не здаваліся. Яны папрасілі свайго шамана схадзіць у святы яр і адправіць апошняе набажэнства. Дарога вяла праз пясчаную, парытую глыбокімі шчылінамі зямлю, з якой дабываўся змрочны пах смерці. Таму, калі на месцы вандроўцы пабачылі на кусце адну жывую зялёную пупышку, яны абрадаваліся да слёз. Гэты знак падтрымаў іх на духу, унушыў надзею. І тут здарылася няшчасце. Літаральна, на вачах усіх, расхілілася пупышка, яе пялёсткі апусціліся і ўпалі на зямлю... Гвалтоўная перамена дабіла вандроўцаў. Скамянелыя ад прагі і роспачы, узнялі дзікі лямант і плач, аж пацямнела неба. Раптам, з зямлі падняліся два пялёсткі, завіравалі ў паветры і сталі... мініяцюрнай калібры. Боская птушачка затрапятала крыльцамі і палящела ў бок святых гор. Яна адшукала бога гор ды пачала яму спяваць пра гора людзей і звяроў. Песня калібры была настолькі крануальнай і сумнай, што сам уладар гор не стрымаў фасону і праслязіўся. Ён і не прыкмеціў, калі з яго слёз зрабілася во-



зера, якое ўжо выліавалася на зямлю. Каб пазбегнуць чарговага няшчасця, патопу, бог гор замяніў свой ручай слёз у вужаку. Так нарадзіўся Амару, боская вужака, парослая пер'ем, якога па сённяшні дзень паважаюць першабытныя плямёны Пэру. Амару меў галаву ламы і рыбін хвост, у якім знаходзілася вока свету. Яго чырвоную пысу аздаблялі крыштальныя вочы. Стварэнне ў нечым напамінала калібры, якая пасля сканчэння сваёй місіі памерла.

Боскі Амару вырашыў ратаваць жыццё на зямлі. Ён узляцеў над зямлёй і сваім дыханм-імглой напоўніў даліны. Ад трапятання крыл і хваста пайшлі дождж і град, з каляровых лусак нарадзілася вясёлка. Людзі адталі, супакоіліся. І зямля ажыла, зазелянілася. Заціві кветкі і дрэвы. У ручаях і рэчках зноў ажылі рыбы і вадаспады. Разам з адраджэннем зямлі прачнуліся і адрадзіліся багі інкаў. І сёння, калі яны ўспамінаюць гэты апакаліптычны, жахлівы перыяд, дык убіраюць яго ў каляровыя фарбы, сугучныя дзікай прыгажуні джунглі і птушачцы калібры. Бо ўсё добрае, надзейнае і каляровае, калі ў яго добры канец!

**ЗОРКА**

Ад рэдакцыі: Мы таксама прапануем размаляваць вам гэтую гісторыю і даслаць малюнак у „Зорку". Аўтары самых цікавых прац атрымаюць узнагароды!

# ~ Галерэя ЗОРКІ ~



Фота Ганны Кандрацюк

**1. Імя і прозвішча:** Оля Сімончук (ПШ у Нарве).

**2. Твой любімы прадмет:** выхаванне і падрыхтоўка да жыцця ў сям'і.

**3. У жыцці хачу стаць:** сакраткай.

**4. У сяброў цаню:** калі яны стрымліваюць слова.

**5. Не люблю:** матэматыкі.

**6. Па-беларуску размаўляю:** з бабуляй і дзядулем, часам з татам.

**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** «Той чужы» Ірэны Юргелевічовай.

**8. Падабаецца мне музыка:** люблю кожны від музыкі.

**9. Твае ўлюбёныя стравы:** салаткі.

**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** люблю паляжаць на канапе і паслухаць музыкі.

**11. Калі дарасту хачу жыць:** у Нарве, бо тут шмат дзееца.

# Зіма

*Міхал СТОЦКІ*

Ужо на дварэ холадна  
І ноч даўжэйшая ад дня.  
Часта ідзе дождж,  
А разам з ім ідзе зіма.

Усё вакол змяняецца,  
Мядзведзі ідуць спаць,  
А дзеці ў цёплых шапках  
На панадворку будуць гуляць.

# Музыка з кайфам

## Раскажы мне калядку!

Хаця Каляды ўжо за намі (паводле абодвух стыляў), усё-такі час калядавання будзе яшчэ доўжыцца. Таму менавіта варта ўспомніць пра калядныя навінкі — тыя што паявіліся, і тыя што наперадзе...

Уважлівы чытач напэўна помніць альбом „Песні з Кожына", пра які мы нядаўна пісалі. У ім знойдзем калядкі, якія да сёння выконваюцца ў ваколіцах Кожына. Калядкі з розных куткоў Беларусі можна было пачуць 16 снежня ў клубе „Фама" ў Беластоку, дзе сваю прэм'еру меў праект „Новы расказ пра калядку". Канцэрт пачаў гурт „Ilo&friends", які запрэзентаваў свой аўтарскі рэпертуар і ўвёў у фінале ў калядную атмасферу. Тады сабраныя ў зале слухачы пачулі... беларускую дуду! Рэдка сустраканы на Беласточчыне інструмент прадуцаў дзякуючы Яўгену Барышнікаву — беларускаму барду, лаўрэату фестывалю „Бардаўская восень-2010". Апрача Барышнікава аранжыроўкі для калядак стварыў Міхал Мінта, акардэаніст, які часта карыстаецца таксама перкусійнымі інструментамі. Сваімі галасамі цэласць упрыгожылі дзяўчаты з беластоцкага калектыву „Палудніцы" (вядзе яго тая ж Юліта Харытанюк, якая давяла да запісу альбома „Песні з Кожына" — усё так прыгожа ў свеце часам пераплятаецца). У такім цікавым саставе праект „Новы расказ пра калядку" хуценька яшчэ пабандраваў у Цэнтр адукацыі і праможцы беларускай культуры ў Шчытах, дзе ўзбагаціў адкрыццё выстаўкі „Беларусы Падляшша", а пасля яшчэ наведаў Усеагульны ўніверсітэт у Тэрэміскох. Цэласць — вынік стыпендыі Прэзідэнта горада Беластока, якую атрымала Ілона Карпюк, аўтарка каляднага праекта, у якім сама і заспявала. Разам з гуртом „Ilo&friends" будзе можна яе пачуць яшчэ раз 29 студзеня 2012 г. на Міжнародным фестывалі ўсходніх калядак у Тарэспалі, дзе сумесна з калектывам „Расспяваны Гарадок" выканаюць праграму „Шчодры вечар добрым людзям". Гэты праект паявіцца таксама ў форме кампакт-дыска. А на Новы год хочацца пажадаць, каб не менш музычных падзей адбывалася кожнага месяца праз увесь круглы год!



i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 3

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 51:**

Шмат, чын, Ян, чытанка, тата, грамата. Шчыт, мыта, фант, нага, як, ганак.

Узнагароды, аўтаручкі з лагатыпам і адрасам „Камунікату" (беларускай інтэрнэтнай бібліятэкі), выйгралі **Вераніка Пташынская, Юлька Койла, Міхал Тамашук-Спірыдовіч, Агата Яканюк, Каміль Барташэвіч** з Дубін, **Лукаш Марчук** з Нараўкі, **Вікторыя Артэмюк, Кася Авярчук, Габрыель Кузьмін, Паўліна Паплаўская, Дарота Артышук, Эльвіра Андрусевіч** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Baran | Letni domek | Uwaga | Sęk | | Lit (wal. litewska) | | | |
| Bocian | | | | | | Narocz (jezioro) | Kwiatek | |
| | | | | | | | | |
| Pajęczyna | | | | | | | Mak | |
| Wierzba (rokita) | | | Balonik | | | | | |
| | | | | | | | | |
| Ina | | Prowiant jedzenie | | | | | | |






Анатоль ПАРЭМБСКІ

## Чароўны звон

*Чароўна б'е царкоўны звон,*
*Ахвотным добра чутна.*
*Паслухаць праўду кліча ён*
*Адзіны абсалютна.*

*Ідзеш на звон, а сэрца такт*
*Трывожыць цень сярмягі.*
*Ідзеш назад і чуеш як*
*Грахі змяняюць вагу.*

*Калі на „Верую" б'е звон,*
*Спакойны быць не зможаш —*
*Пра Бога думаеш, Закон*
*Спаўняць найшчырай хочаш.*

*Чароўны звон як Дух Святы*
*Дае табе натхненне*
*І набываеш дабраты,*
*Аддзякуеш маленнем.*

## У падзяцы Збавіцелю

*Пост Піліпаў пражываем шчыра, шчыра,*
*Усё скаромнае пакінуўшы на свята.*
*Нараджэнне каб прыняць Ізбаўцу міра,*
*Не скаляўшы імя чалавеку, брату.*

*А святая споведзь — знаем, што паможа*
*Адкрыць душу перад велічным здарэннем*
*І пакажа нам дарогу воляй Божай*
*Пакланіцца нізка Хрыста нараджэнню.*

*Пажывем шчасліва з Богам-Чалавекам:*
*На зямлю прыйшоў на наша вызваленне,*
*І бароніць нас ужо аж двацаць векаў.*
*Цяпер з неба нам дае благаслаўленне.*



Зоя МАЙСТРОВІЧ

## Краіна дзяцінства

*Ёсць на свеце цудоўная старана,*
*Там заўсёды вечная вясна.*
*Там прынцэсы жывуць адны*
*І разам з імі каралі.*

*Там такая чароўная краіна,*
*Ды ў ёй хутка дзеці падрастаюць.*
*Яна заўсёды поўна цудаў і навінаў,*
*Там і казкі ажываюць,*

*У радасці вечнай, спакоі.*
*Казачны рай яна назавецца.*
*У ёй здзяйсняюцца мроі,*
*У ёй кожная мара збываецца.*

*Там белыя аблокі па небе плывуць,*
*Белыя астры ўвесь год цвітуць.*
*Там няма бяды, зла і свінства.*
*Гэта краіна шчаслівага дзяцінства.*

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Попел на вецер

**Якраз Вера сушыла на шнуры свае каляровыя хусты. Некаторыя ўражвалі шматлікасцю колераў і ўзораў. Найрыгажэйшая, светлая, з дробненькімі блакітнымі кветкамі, лёгка лунала на лістападаўскім ветры. Я магла сабе ўявіць, у каторай хусце Вера ходзіць у будзень, а якую надзявае ў час свята ці ў нядзелю. Вельмі сумна выглядалі чорныя хусты, якіх таксама некалькі вісела на шнуры. Напаміналі пра тое, што і такія трэба будзе яшчэ надзець.**

Сама Вера нічым не адрознівалася ад іншых жанчын у яе ўзросце. Невялікая, дробненькая бабуля, трохі прыгорбленая, але не моцна. Выглядала больш так, як бы нахілялася, каб лепш пачуць другую асобу. Хаця была адна рэч, якая прыцягвала ўвагу, а нават выклікала неспакой — менавіта вочы.

Вера расказвала пра сваю хваробу.

— Нават вы не ведаеце як мяне людзі напалохалі: казалі, што ў мяне рак вока! Куды я не ездзіла, — і ў Парцава, і ў Орлю, дзесьці у Чаромсе быў якісь чалавек, што лячыў. Мела я аперацыю на абодва вокі. Я доўга лячылася, і мала што магла ўбачыць...

Мне, аднак, здавалася, што Вера глядзіць на чалавека і бачыць больш, чым іншыя людзі.

— Я толькі вецер качаць умею, — прызналася Вера без ніводнай штучнай сціпласці.

Гэтыя словы выклікалі ўражанне, што гэта сапраўды простая справа. Праз хвіліну кожны мог бы падумаць, што сам умее качаць вецер і знаходзіцца ў якімсьці чароўным свеце. У сапраўднасці гэта не казачны свет, толькі шаптуха з Сакольшчыны і штодзённы свет беларусаў!

Вера адчыніла дзверы ад прыбудоўкі. У куце стаяла невялікая печ, сцяна за ёю была абвешана рознымі прыладамі. Былі там рэшата, кацялок, два сярпы, перавязаныя белаю анучай, якія ўжо напэўна даўно не бачылі залатога калосся.

— У нашай кухні рамонт рабілі, а я гэта ўсё пазбірала і сюды прынесла.

Пад печчу стаяў падрыхтаваны пакецік попелу:

— Калі хтосьці прыедзе хворы, тады карыстаюся ім. Ён лечыць хутка і добра. Людзі прыязджаюць нават з Беластока...

Вера пачала шукаць слоічка, якім заўсёды качае. Бразгала дзверцамі ад старой посуднай шафы:

— Зараз я дастану мае прылады, ужо я і памяці добрай не маю, добры такі слоічак, куды ён дзеўся?.. Зараз я яго знайду.

Заглядаючы ва ўсе куты прыбудоўкі, Вера расказвала, як пачала лячыць попелам.

— Мусіла навучыцца, малыя дзеці былі. Мы калісь перад хатай церлі лён. А мой сын яшчэ зусім маленькі быў, усё скакаў, скакаў, а потым так стаў плакаць і ўпаў на калені. Нават да хаты не мог сам дайсці. А тут лён мне трэба церці!.. Я ўсё ж тое кінула і забрала малога. Кажу: што я табе рабіць буду?.. Можа... вецер? Ну, праўда. Я ўзяла слоічак цёплага попелу і качала па малым. Памагло! — Вера кінула пошукі свайго слоічка і ўзяла якісьці кубак. Не спяшаючыся, паволньмі рухамі распакавала торбачку, з якой набрала кухоннай лыжкай попелу. Верх кубка накрыла белай анучай: — Калі вецер, а слоічак поўны попелу, тады ён у ім патрэскае, а калі няма ветру, тады нічога няма, — Вера не тлумачыла дэталёва — гэта ж было для яе звычайнай справай. Мяне цікавіла, адкуль узяўся звычай лячэння



Вера Гораш з Вярхлесу

попелам. Жывуць розныя знахаркі, што лечаць зеллем, ёсць і такія, што маюць незямную сілу ў руках. Веры патрэбны былі толькі попел і вецер.

— А як будзеце лячыць?

Вера паглядзела на мяне са здзіўленнем:

— Так выкачваюць, здавён, і мяне так лячылі.

Невядома, чаму выкачванне дапамагае. Ці галоўнай прычынай гэтага ёсць попел, ці шаптанне, а можа гэты самы вецер?.. Напэўна, ёсць у гэтым народная мудрасць... Мне здалося, што Вера ўгадала мае думкі.

— Я і „Ойча наш" гавару, выкачваючы. Малітва таксама патрэбна...

Мне здавалася, што ў жыцці Веры мяшаюцца два светы: свет, у якім ёй прыйшлося жыць, які не зусім яе разумее, і свет продкаў, іх абрадаў, веры ў магутнасць сонца, агню ці ўласна ветру!

Вера ў нядзелю не выкачвае:

— Мне здаецца, што брыдка гэта рабіць пры свяце. Не так даўно было, прыйшоў да мяне сусед і кажа: „Качайце, што хочаце рабіце, бадай памру!". Яму так спіна балела. Я пакачала і кажу: „Прыйдзі пасля захаду сонца, заўтра нядзеля, тады не прыходзь". Усюды службы адпраўляюць, ці ў праваслаўных, ці ў католікаў. Не хачу! — Вера здрыганулася ад самой думкі пра гэта. Схавала далоні ў рукавы швэдра.

З прыбудоўкі было добра відаць падворак суседкі. Вера штурханула мяне пад бок і шапнула са смехам:

— О, глядзі, ужо Валя пайшла. Пэўна, цікавіцца, аб чым гаворым!

Суседка заглянула праз плот і знікла за гурбай пален.

— Мне грошы даюць. Я не бяру, таму што няможна. Толькі кажу: хай вам памагае. Зараз скажуць: „Багацееш". Не ведаеш, як на вёсцы?! Я не хачу грошай. За што? Але то шакаладку, то каробку цукеркаў пакладуць...

Вера стаяла пры печы і лёгка калыхалася на нагах. На кружках ляжала некалькі свечак:

— Гэта грамніцы. Прыязджалі такія. Ужо цяпер не так, але раней адзін за адным ехалі. Аднаму дапаможа, тады той зноў накажа каму-небудзь, і так едуць... Колькі я дзяцей прымала! Дай Божа, каб усе здаровыя былі. Звяроў дзеці баяцца. Мястовыя заедуць на вёску, то бык, то карова, авечка малое напалохае. Прыехала нядаўна жанчына з такім хлопчыкам, а ён такі перапалоханы быў! Не глядзеў нават на мяне, толькі засланяўся рукамі. Я ўзяла лыжку, паклала тры кавалачкі грамніцы, о такія маленкія, — Вера паказала кончык пальца, — і трымала над яго галавою. Толькі трэба пакласці анучку, каб не капнула на валасы. Дзяцей трэба шанаваць. Гэта не старому, але і старому трэба накрыць, каб гарачы воск на галаву не ўпаў. Потым у міску з халоднай вадой гэты воск трэба выліць: і выходзіць якісьці звер, што спалохаў дзіця. Гэта таксама дапамагае і старэйшым людзям. Кожны, хто прыязджае, потым удзячны за дапамогу. Можа так Бог дае мне, каб людзям дапамагаць. Кожны можа выкачваць, але аднаму дапаможа, а іншаму не. Нават калісь сюды прыехала такая кабета, якой доктар сказаў, каб да бабак ехала!

Вера ўсміхнулася да мяне і рашыла, што расказала ўжо пра ўсё. Зачыніла дзверы ад прыбудоўкі. Адвяла мяне да форткі, напамінаючы, каб прыязджаць, калі пачне нешта балець.

Быў цёплы лістападаўскі дзень. Дзьмуў лёгкі вецер.

*Духоўны скарб*

Сяргей ЧЫГРЫН

# З фотаархіва былога студэнта Беластоцкага педінстытута

**У мінулым стагоддзі жыў на Гарадзеншчыне цікавы чалавек — педагог, краязнавец і музеязнавец Міхась Петрыкевіч (1913-1999). На жаль, у Беларусі сёння такіх людзей не ўшаноўваюць, не памятаюць, не ганарацца імі, не вучацца ў іх. А такім людзям, якім быў Міхась Петрыкевіч, трэба ставіць помнікі, адкрываць мемарыяльныя шыльды, выдаваць пра іх кнігі. Магчыма, такі час на Беларусь яшчэ вернецца, яшчэ будзе. Тым не менш, я выращыў сёння згадаць пра гэтага апантанага ў родны край і людзей чалавека.**

Міхась Петрыкевіч нарадзіўся на Наваградчыне. Пасля пачатковай школы і двухгадовай школы паступіў у Наваградскую беларускую гімназію. У 1940-1941 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Беластоцкага педінстытута. З пачаткам вайны вярнуўся дамоў. Потым яго забралі на фронт. А пасля вайны давучваўся ў Мінскім педінстытуце.

Усё жыццё Міхась Петрыкевіч працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе ў Карэлічах і Валеўцы на Наваградчыне. У школе ў Валеўцы ён стварыў народны краязнаўчы музей. А калі пераехаў у Дзятлава, арганізаваў у 1967 годзе Дзятлаўскі раённы краязнаўчы музей, які існуе да сённяшніх дзён. З 1967 года Міхась Петрыкевіч друкаваў у рэспубліканскіх газетах і часопісах артыкулы на розныя краязнаўчыя тэмы. Вельмі шчыра сябраваў з беларускімі пісьменнікамі, асабліва з Уладзімірам Калеснікам, Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Фёдарам Янкоўскім, Янкам Скрыганам і многімі іншымі.



Міхась Петрыкевіч, 1947 год



Міхась Петрыкевіч у сярэдзіне старога дуба (не захаваўся). З другога боку фотаздымка рукой Уладзіміра Калесніка напісана: „Дарагі Міхале! Будзь такі малады і вясёлы, як на гэтым фотаздымку. Што варты твае пяцьдзесят гадоў у параўнанні з тысячай гэтага свіцязянскага волата? Праўда, тысяча — не чалавечы век, але гледзячы на такіх статных старцаў, sto lat можна пражыць не старэючы. Гэтага табе ад усёй душы жадаем мы з Соняй. Ул. Калеснік"

Разам з сынам Міхася Петрыкевіча, Валерыем, запланавалі сабраць лепшыя краязнаўчыя публікацыі гарадзенскага краязнаўца, а таксама артыкулы пра яго і фотаздымкі, і выдаць асобнай кніжкай. Чытачам „Нівы" прапаную вельмі рэдкія фотаздымкі з фотаархіва былога студэнта Беластоцкага педінстытута, беларускага краязнаўца, заслужанага настаўніка Беларусі Міхася Петрыкевіча. Усе фотаздымкі друкуюцца ўпершыню.



Каля Варончы на Наваградчыне. Уладзімір Калеснік, Міхась Петрыкевіч і Уладзімір Караткевіч, ліпень 1963 год



На Замкавай гары ў Наваградку. Фёдар Янкоўскі, Янка Скрыган і Міхась Петрыкевіч, 1960 год



Злева направа. Раман Лецка, Уладзімір Калеснік, Фрыда Гурэвіч — даследчыца старажытнага Наваградка, Міхась Петрыкевіч і іншыя на археалагічных раскопках у Наваградку, 1959 год. Фота Янкі Брыля



На кургане Адама Міцкевіча. Фёдар Янкоўскі і Міхась Петрыкевіч, 1960 год



Уладзімір Караткевіч і Янка Брыль сустракаюцца з вучнямі на Наваградчыне. Крайні справа Міхась Петрыкевіч. 1964 год

*Зялёны лес казачна шуміць.*
*Цудоўны ручаёк бурліць.*
*З яго калі нап'юцца вады,*
*Усе дзеці здаровыя будуць тады.*

## Куды ляцяць гусі

*Куды ляцяць шэрыя гусі?*
*Ключы іх з крыкам нясуцца.*
*Гэта на ўсход ляцяць яны,*
*Каб на захад ключом вярнуцца.*

*Дзе месца выбяруць яны,*
*Дзе гнёзды будуць віці?*
*Хачу, каб яны ў нас увесь час былі*
*З намі былі іхнія дзеці.*

*Так як буслы ляцяць да нас*
*І тут жывуць у нас летам.*
*Мы іх чакаем кожную вясну,*
*Цешымся з іхніх дзетак.*

*Радуемся, як яны растуць,*
*Як вучацца маленькімі лятаць,*
*А калі назад ад нас палятуць,*
*Будзем іх дома чакаць.*



Мірон МАРЧУК

## Скарб

*Калі вочы мае*
*Паглядзелі на залатыя пшанічныя нівы*
*Ў роднай краіне маіх бацькоў,*
*У сэрцы паявіліся жаль і туга*
*За гэтай краінай зялёнай і чыстай,*
*Як сляза,*
*Якая ўпала на зямлю —*
*Чорную і ўрадлівую, —*
*З краіны мовы роднай,*
*Амаль святой,*
*Якая ў сэрцы маім ёсць,*
*Была*
*і будзе.*
*Туга за людзей,*
*Якіх рукі чорныя і цвёрдыя,*
*як два камяні,*
*Якіх вочы,*
*Нягледзячы на працу*
*і слёзы,*
*Свецяць, як зоркі на небе*
*начным.*
*Вобразы краіны святой*
*У маім сэрцы*
*Сцерагу, як найбольшы*
*скарб-святыню.*

## Вяртанне

*Яна стаіць*
*і пазірае*
*вачыма поўнымі слёз.*
*Прыпамінае*
*гэты час, калі*
*бегала.*
*Тут, на гэтай зямлі!*
*Смяялася. З чыстай, дзяцінай радасцю!*
*Гэта мінула*
*даўно, даўно таму.*
*А цяпер?*
*Цішыня. І пустатою*
*радзінны дом.*
*Гэта ўжо не дом.*
*Пустыя аканіцы*
*страшаць смуткам*
*і балючымі ўспамінамі.*
*І там, у самым куце,*
*адзін камень.*
*Магіла.*
*Падбягае да яго,*
*падае на калені*
*і кажа два словы*
*«Мамка, прабач».*

# 2011 год ч.III

**Васіль САКОЎСКІ**

*Як маецца польскае школьніцтва ў Беларусі, я не ведаю. Ведаю, як маецца беларускае школьніцтва ў Беларусі. Кепска маецца яно. Кепска маецца таксама і ўся беларушчына. На жаль, не мае Беларусь свайго выразнага нацыянальнага абліччa. Дзіўна, прыкра і смешна, што амаль дзесяцімільённая краіна ў цэнтры Еўропы ў нацыянальным сэнсе з'яўляецца ніякай. А што вартая краіна без свайго нацыянальнага характару і каларыту?!*

*У польскіх сродках масавай інфармацыі ў 2011 г. мала гаварылася і пісалася пра Беларусь. А калі ўжо і ўпаміналася — то ў асноўным пра беларускую апазіцыю, якой нібыта ў нас і спачуваюць, і якую шкадуюць, і падтрымліваюць... Але і пра банкаўскія рахункі гэтай жа апазіцыі беларускім рэжымным уладам ахвотна данеслі. Папаўзлі такія даносы і з іншых еўрапейскіх краін, многія з якіх у свой час вельмі ахвотна самі карысталіся такімі рахункамі — і закруцілася-завярцелася ў Беларусі рэпрэсійная каніцель. Значыць, у адносінах да беларускага народа міжнародная салідарнасць дала трэшчыну. Відаць, еўрапейская супольнасць не вельмі хоча бачыць сінявокую Беларусь у сваёй сям'і еўрапейскіх народаў. Гэта горкая праўда. Май, Божа, пад сваёй апекай Беларусь...*

*На жаль, не мела чым пахваліцца і самастійная Украіна, хаця з'яўляецца і большай, і багацейшай, і з яшчэ лепшым геаграфічным палажэннем, чым Беларусь. Праўда, пра свае нацыянальныя справы ва Украіне, аднак, лепш дбаюць, чым у Беларусі — і гэта іх козыр. Але розных нядобрых і смешных спраў і там хапае. Нейкай павагі, сур'ёзнасці і адказнасці нават у іх Вярхоўнай Радзе і ўрадзе не хапае. Вечныя спрэчкі, сваркі і нават рукапашныя схваткі. Моцна відавочны і штораз больш паглыбляецца падзел паміж Усходняй і Заходняй Украінай, паміж багатымі і беднымі, паміж вядучымі лідарамі і іх партыямі, а таксама рэлігійныя падзелы. Усё гэта перашкаджае ў штодзённым жыцці і вядзе краіну ў нядобрым напрамку.*

*Найбольш вострая барацьба ўжо многія гады вядзецца паміж трыма палітычнымі лідарамі (двума Віктарамі і Юляй) пры падтрымцы іх партый. Барацьба бескампрамісная і без правіл, бо і стаўка высокая — улада. З аднаго боку два здаравенныя мужчыны з громкімі імёнамі і, канешне ж, неджэнтльмены і з другога — прыгожая, далікатная, з арыгінальнай прычоскай жанчына.*

*Спачатку, калі першы Віктар яшчэ толькі дарываўся да прэзідэнцкай улады, ён вельмі здружыўся з Юляй, нават, здаецца, пакахаліся яны. А калі стаў прэзідэнтам, непатрэбным стаў яму такі баявы і вопытны палітык. І пачалася між імі барацьба. Вынік быў такі, што Віктар і яго палітыка прайгралі з трэскам, а Юля надалей асталася той самай Юляй...*

*Наступным прэзідэнтам Украіны стаў другі Віктар. І гэты Віктар ужо дасканала ведаў адкуль найбольшая пагроза яго прэзідэнцтву, бо Юля нялёгкі канкурэнт. Вось і рашыў ён: на хрэн даказваць сваю рацыю, лепей няхай яго найбольшы апанент дакажа перад судом, што яна сама ні ў чым невінаватая. А суду ўжо па традыцыі патрэбны толькі чалавек, а ўжо адпаведны параграф суд сам на яго знойдзе. І знайшоў, і засудзіў: сем гадоў турмы, трохгадовая забарона займаць дзяржаўныя пасады, заплаціць паўтара мільёна грывень „Нафтагазу" і некалькі тысяч грывень за праведзеныя экспертызы. Вось як па-ўкраінску змагаюцца са сваімі палітычнымі канкурэнтамі. Проста класіка...*



*І Расія, якую „умом не понять и аршином не измерить" — такой менавіта заўсёды была і такой надалей астаецца. Так што Расія і ў 2011 годзе з'яўляецца краінай агромнай велічыні і вялікіх кантрастаў: прыродных, кліматычных, нацыянальных, рэлігійных, класавых, маёмасна-матэрыяльных, сталічна-правінцыйных і іншых. Найбольш відавочным, крыўдным і небяспечным з іх з'яўляецца, канешне, матэрыяльны. Побач сябе законна прыжыліся бедната і багацце. Адны з вялікімі цяжкасцямі могуць звесці канцы з канцамі, або і не звесці, а другія — проста купаюцца ў дастатку і раскошы. Нават расійскія прэзідэнты шмат гадоў ужо прызнаюцца, што многія іх грамадзяне жывуць „за чертой бедности" — і чамусьці не чырванеюць ад сораму. Пара, шаноўныя прэзідэнты, выцягнуць ужо іх з-пад гэтай ганебнай для багатай Расіі „черты".*

*Свае разважанні на тэму сучаснай Расіі хачу закончыць яшчэ двума вельмі актуальнымі кантрастамі, якія бачны простым вокам і надалей нарастаюць — кантрастам паміж горадам і вёскай, і паміж сталіцай і рэштай Расіі, як я іх бачу. А пачаткі дружбы сярпа і молата, непарыўнай „рабоче-крестьянской дружбы" на пачатку савецкай улады былі такія шматабяцальныя — і ўсё гэта мела служыць „во благо". Сапраўднай дружбы аднак не атрымалася, „благо" — так, але толькі ў беларускім значэнні гэтага слова. І так засталося дасюль, словы „калгаснік, дзярэўня, правінцыя" ў вялікай пагардзе там...*

*Падобныя адносіны і сучасных масквічоў да немасквічоў, адным словам, гэтыя адносіны проста зняважлівыя: „понаехали всякие", „чтобы прописаться в Москве", „чтобы прижениться в Москве", „завладеть чужой жилплощадью", „я не хочу, чтоб сын привёл в дом лахудру..." — аж слухаць гадка. І гавораць гэта не толькі на рынку, а па тэлевізары. А што багатая сталіца жыла і жыве за кошт убогенькай правінцыі — маўчаць. Вось плён сямідзесяці гадоў савецкай улады і дваццаці гадоў расійскага капіталізму.*




Галоўнай навучальнай і навуковай установай у кожнай краіне з'яўляецца нацыянальная акадэмія навук. Там канцэнтруецца не толькі светач нацыянальнай навукі, але і атрымліваюць перадавыя веды аспіранты. Адным з найважнейшых чыннікаў удалага развіцця навукі з'яўляецца незалежнасць навуковай думкі, магчымасць выказвання свайго пункту гледжання не зважаючы на згоду ці не згоду навуковых карыфеяў, даступнасць усяго перадавога сусветнага досведу. На жаль, не ўсе нацыянальныя акадэміі могуць пахваліцца наяўнасцю такіх чыннікаў. І адна з такіх акадэмій — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі (НАНБ).

Віртуальнае прадстаўніцтва галоўнай навуковай установы Беларусі месціцца па адрасе **http://nasb.gov.by**. Выгляд галоўнай старонкі даволі прывабны. Падзеленая на дзве часткі, змяшчае яна шматлікія выйсці на іншыя старонкі сайта, а таксама запрашэнне, дзе мы ўбачым невялікі „аўтабіяграфічны" расповед і фотаздымак галоўнага корпуса ўстановы. „Заснаваная ў кастрычніку 1928 года як Беларуская акадэмія навук і ўрачыста адкрытая 1 студзеня 1929 г., Нацыянальная акадэмія навук Беларусі з'яўляецца вядучым даследчым цэнтрам Беларусі, які аб'ядноўвае высокакваліфікаваных вучоных розных спецыяльнасцей і дзесяткі навукова-даследчых, навукова-вытворчых, канструктарскіх і ўкаранільніцкіх арганізацый. У Нацыянальнай акадэміі навук працуе звыш 18,2 тыс. даследчыкаў, тэхнікаў, дапаможнага і абслугоўваючага персаналу. Сярод іх каля 6,5 тыс. даследчыкаў, 511 дактароў навук і 1943 кандыдаты навук", — распавядаецца ў самапрэзентацыі акадэміі.

Зразумела, што беларуская навука з'яўляецца не самым апошнім звяном у сусветным навуковым ланцугу, хоць пакуль не чуваць аб наяўнасці там нобелеўскіх лаўрэатаў. Праўда, у першыя з першых ёй наўрад ці выкараскацца. І ёсць гэтаму адна вельмі непрыемная прычына. Так, напрыканцы мінулага 2011 года з Інстытута фізіялогіі НАНБ быў адлічаны адзін з аспірантаў Аляксей Паўлоўскі з Магілёва, які патрабаваў, згодна падпісанай з Інстытутам фізіялогіі дамовы, засяліць яго ў акадэміцкі інтэрнат. І настолькі моцна ён гэтага патрабаваў, што нават прыгразіў правесці акцыю пратэсту пад лозунгам „За квітнеючую Беларусь з ложка-месцамі для ўсіх".

Такая грамадзянская актыўнасць вельмі засмуціла кіраўніцтва акадэміі і ў рэшце рэшт яно выключыла яго, як сцвярджае Паўлоўскі, без дай прычыны. Цяпер Паўлоўскі, канешне, судзіцца з НАНБ, але факт боязі навуковым кіраўніцтвам грамадзянскай актыўнасці аспірантаў паказаў, што не надта ўсё добра ў галоўнай навуковай установе Беларусі і свабода думкі наўрад ці там вітаецца.

Калі прайсціся па старонках сайта, то ў нечым цікавай будзе рубрыка „Навіны". Магчыма, цікаўны карыстальнік мяркуе, што там ён знойдзе паведамленні аб найбольш важных навуковых адкрыццях, зробленых беларускімі вучонымі апошнім часам, але гэта не так. Тым не менш там можна пазнаёміцца з інфармацыяй аб днях народзінаў цяперашніх акадэмікаў, выйшаўшых кнігах, нарматыўных актах і іншых больш важных, на думку аўтараў сайта, падзеях. Крыху дзіўна выглядае і навагодняе віншаванне старшыні прэзідыума НАНБ Анатоля Русецкага, апублікаванае на беларускамоўнай старонцы сайта па-руску.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы БЕЛАРУСІ

### Камянецкая вежа

Неяк адна з выкладчыц сур'ёзнай навучальнай установы ў час лекцыі „загнула", што назва Камянецкай вежы пайшла ад Белавежскай пушчы. Анекдатычная недарэчнасць вынікла, відаць, з таго, што аднайменная пушча ў свеце, ды і ў самой Беларусі куды больш вядомая, чым уласна сама Белая вежа. Таму варта адмыслова выбрацца ў Камянец, каб на свае вочы пабачыць мясцовы ўнікальны помнік архітэктуры. Асабіста мне падобную цалелую вежу ў іншых мясцовасцях Еўропы знаходзіць не даводзілася, хоць 700-800 гадоў таму іх было досыць шмат. Гэтае збудаванне мае рэдкае і рамантычнае найменне „данжон" — так у сярэднявечным замку называлі галоўную вартавую вежу, у якой часам размяшчаліся і жылыя пакоі ўладальніка.

Сам Камянец паводле Іпацьеўскага летапісу быў заснаваны валынскім князем Уладзімірам Васількавічам у 1276 годзе. Тады ж на левым беразе рэчкі Лясная і быў закладзены Камянецкі стоўп, які мусіў умацаваць паўночныя межы Берасцейскай зямлі. Пабудова ў месцы, дзе вяліся магутныя зубры і іншыя дзікія звяры, карэнным чынам змяніла наваколле. Старажытны летапіс захоўвае і імя дойліда — вежу і ўсё абарончае паселішча будаваў тагачасны майстар Алекса. Вежа складзена спосабам так званай вендскай муроўкі (чаргаванне ў цаглінах двух лажкоў і аднаго тычка), якая прыйшла на нашы землі з далёкай Ламбардыі. Як выявілі даследзіны археолагаў вежа была абкружана кальцавым валам і выразна ўзвышалася над драўлянымі ўмацаваннямі. Валы былі з трох бакоў, з чацвёртага ж натуральнай абаронай служыла паўнаводная тады рака. Да нашых дзён засталася толькі сама вежа, якая складаецца з 5 ярусаў і сягае ўверх на 30 метраў. Таўшчэзныя сцены даюць яскравае ўяўленне, што для сярэднявечных вояроў яна была непрыступнай цвердзю. Прынамсі, у гістарычных крыніцах няма звестак пра тое, што Камянецкая вежа была калі-небудзь заваяваная штурмам. За яе сценамі можна было перасядзець праціўнікаў час, тым больш, што ў самой вежы верагодна была студня — наўкола і зараз багата крыніц.

З цягам стагоддзяў Камянецкая вежа страціла сваю функцыянальнасць і да XIX стагоддзя прыйшла ў заняпад. Мясцовыя насельнікі спрабавалі нават расцягнуць яе на цэглу. Сітуацыю ўратаваў мясцовы святар Леў Паеўскі, які звярнуўся да ўлад з прашэннем аб адбудове помніка. Урэшце ў 1903-1905 гадах была праведзена рэстаўрацыя. А ў савецкі час на вежы нейкі час вісеў лозунг „Слава КПСС", які пазней кануў у нябыт. У 1957 годзе савецкае начальства прыдумала пафарбаваць вежу ў белы колер. І толькі ў наш суверэнны час помніку была вернута аўтэнтычнасць, для чаго давялося задзейнічаць нават альпіністаў.

Назва Камянецкай вежы сваім коранем супадае з назвай усёй дзяржавы, таму яна даўно стала ўстойлівым адметным сімвалам нашай краіны. Парадаксальна аднак, што ўласна белай яна ніколі не была, насуперак распаўсюджанаму меркаванню, паводле якога ў сярэднявеччы вежу бялілі. Насамрэч бяліліся толькі нішы верхняга яруса. Паэты прысвяцілі знакамітаму помніку архітэктуры нямала твораў, а Алег Лойка ў аднайменнай паэме нават атаясамліваў гісторыю вежы з лёсам усяе нацыі. Камянецкая вежа стала ўстойлівым брэндам Берасцейшчыны — ёсць адпаведны абласны фэст, выпускаецца „Белавежскае піва". Сёння ў Камянецкай вежы размешчана музейная экспазіцыя. Летам 2011 года тут прайшло рэгіянальнае свята сярэднявечнай культуры і традыцый. Некалі людзі стваралі помнікі. Цяпер гэтыя помнікі адраджаюць гісторыю.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Віктар БУРА

# Майстар народных інструментаў

**Не так даўно, у час адной з паездак у Беларусь, у Адэльску Гродзенскага раёна пашанцавала мне пазнаёміцца з Мар'янам Скрамблевічам — таленавітым, поўным фантазіі чалавекам. Знаёмства адбылося ў Адэльскім цэнтры культуры і народнай творчасці, у якім месціцца ягоны музейны пакой народных інструментаў.**

Мар'ян Антонавіч Скрамблевіч — выдатны творца, музыкант, рэстаўратар і майстар. Вынікам яго шматгадовай працы з'яўляецца згаданы ўжо музейны пакой, у якім сабрана больш за сто народных інструментаў, што выйшлі з-пад рук майстра: гарадзенскія трубы, флейты, жалейкі, паляўнічыя рогі, трэмбіты, трашчоткі, старадаўні бубен, дудачкі і інш.




Асаблівую цікавасць прыцягвае да сябе дудка з янтарнага дрэва, якому больш за 300 гадоў, а таксама ўнікальная калекцыя драўляных акарын у выглядзе птушак і рыб — адзіная такая калекцыя ў Еўропе.

Для кожнага інструмента майстар старанна падбірае розныя пароды дрэў: клён, акацыя, ясень, чаромха, сасна, дуб, рабіна, чорны бэз і нават індыйскі бамбук. І толькі яму зразумела як і з якога дрэва можна зрабіць той ці іншы інструмент, як высушыць матэрыял.

Практычныя парады Мар'яна Скрамблевіча цікавыя для ўсіх аматараў і знатакоў самабытных беларускіх народных музычных інструментаў. Ён дэталёва азнаямляе з тэхналогіяй вырабу музычных інструментаў, прыёмамі і метадамі гукаатрымання, сакрэтамі загатоўкі, сушкі і апрацоўкі розных парод дрэў.

Пабываўшы ў музейным пакоі Мар'яна Антонавіча можна азнаёміцца са шматлікімі драўлянымі музычнымі інструментамі, якія здаўна вядомыя ў Беларусі, не толькі пабачыць, але і пачуць іх чароўнае гучанне, бо Мар'ян Антонавіч з'яўляецца выдатным музыкантам.

У мінулым на вёсцы аўтарытэтам і ўсеагульнай увагай карысталіся музыкі-самавучкі. На гулянні, вяселлі, дзе правіў баль прызнаны гарманіст, хадзілі цэлымі вёскамі, а то і збіралася публіка амаль з усёй ваколіцы. Мар'ян Скрамблевіч, будучы дванаццацігадовым падлеткам, адыгрываў ужо вяселлі па поўнай праграме. І азначала тое сярод землякоў ні больш, ні менш як прызнанне ягонага таленту. Цяпер, у пасівела-серабрыстым узросце, Мар'ян Антонавіч сцвярджае, што сённяшнія яго дудкі пайшлі менавіта ад таго гармоніка.

Усе любімыя ў нашым народзе інструменты з галасамі весялосці і смутку, урачыстасці і досціпу адмысловы музыка Мар'ян Скрамблевіч ужо каля дзесяці гадоў робіць сам. Больш таго, не проста вырабляе, але лічыць свой занятак ганаровым і аддае яму ўсяго сябе, а можа і больш чым сябе.

І толькі адна шкадоба чуецца з яго вуснаў: позна пачаў...

Многа, многа здароўя на многія гады спадару Мар'яну Скрамблевічу жадае аўтар.

# Мой лёс

— Мая вёска Падбалоцце распаложана была над ракою Зялёнкай, — расказвае Вацлаў Гойшык, народжаны 20 красавіка 1934 года. — Мясцовасць была балоцістая і там вадзілася множства ўсялякай звярыны. Я, да дзевятага года жыцця, пасвіў на лугах кароў. Калі ў поўдзень заганяў кароў у багна, каб там напіліся вады, дык яны пасля выходзілі з балота з нагамі чорнымі ад п'явак. Няраз і да маіх ног яны чапляліся і калі іх адрываў, то з ног цякла кроў. Мой бацька быў кавалём, да таго ж сям'я абрабляла сем гектараў зямлі. Паводле сямейнай легенды мой прапрадзед прыехаў туды з Чэхаславакіі. У 1944 годзе — у мае дзесяць галоў — пайшоў я ў пачатковую школу ў Самаравічы. Тады навучанне адбывалася на беларускай мове і ўсё з таго часу астаецца ў маёй памяці. Людзі — у нашай вёсцы пражывала каля тысячы душ — жылі дружна, не сварыліся. Пасля пачатковай школы пайшоў вучыцца ў Гродна, у Фізкультурны тэхнікум, бо вельмі любіў спорт і сам хутка бегаў; вучыўся там у 1951-1954 гадах. У Гродне ўсё для мяне было новае, усё там падабалася: паркі і скверы, багатая гісторыя горада, яго архітэктура. Пасля школы, у мае дваццаць гадоў, прызвалі мяне на тры гады ў армію — служыў у Самаркандзе. Вярнуўшыся з войска, стаў працаваць настаўнікам фізкультуры ў сярэдняй школе ў Міжрэччы. Працаваў нядоўга — з 15 жніўня 1957 да 28 лютага 1958 года. У сакавіку 1958 года наша сям'я пераехала ў Польшчу, у Моранг, ціхі горад сярод азёр і лугоў, дзе вечарамі птушыныя аркестры ладзілі адмысловыя канцэрты. Першыя гады працаваў настаўнікам у тамашняй пачатковай школе. З 1961 да 1963 года займаў пасаду старшыні Павятовага праўлення Саюза сялянскай моладзі, у 1963 годзе стаў працаваць у школьнай адміністрацыі. Працуючы вывучаў завочна рускую філалогію ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Кракаве і атрымаў званне магістра. У 1976 годзе стаў бурмістрам Моранга. Пасля пераехаў у Ольштын, дзе да 1990 года, да выхаду на пенсію, працаваў у дзяржаўнай адміністрацыі.

Але без працы цяжка жыць, таму ў 1994 годзе спадар Вацлаў Гойшык стаў нештатным супрацоўнікам Асяродка навуковых даследаванняў у Ольштыне, дзе вядзе Цэнтр усходніх даследаванняў, супрацоўнічаючы з прафесарам Мечыславам Яцкевічам, таксама пенсіянерам. Спадар Гойшык супрацоўнічае таксама з рэдакцыяй штоквартальніка „Калінінград", які знаёміць ольштынскую моладзь з жыццём суседняга рэгіёна. Вацлаў Гойшык жанаты, мае трое дзяцей, шасцёра ўнукаў і адну праўнучку. Жадаю яму моцнага здароўя на многія гады.

Андрэй ГАЎРЫЛЮК

## СПАЧУВАННІ

З глыбокім смуткам паведамляем, што 6 студзеня 2012 г. на 57 годзе жыцця памёр

**Ян Хлябіч**

— наборшчык „Нівы" ў 1980-х гадах. Сям'і Нябожчыка з прычыны напаткаўшага іх гора словы шчырага спачування выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы".

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — ганскую пагаворку.

1. дэкаратыўная расліна з пахучым лісцем (*Pelargonium*, толькі інакш) = 2 _ 15 _ 9 _ 10 _ 4 _ 5 _;
2. любіць узяць = 6 _ 18 _ 19 _ 20 _;
3. спораваая расліна без каранёў і кветак, якая расце ў сырых месцах = 13 _ 3 _ 11 _;
4. бацька пападзянкі = 7 _ 8 _ 17 _;
5. сталіца Йемена = 16 _ 1 _ 14 _ 12 _.

(ш)

# Адгаданка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | | | | | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | 14 | 15 |
| | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 50 нумара**

Ака, бюро, воз, вымова, Гайнаўка, Гобі, дзік, дол, Дунай, моль, Парнас, пілот, рыба, Рым, сяло, цыцка, юбілей.

Рашэнне: **Бацька мой у год галодны каласкі збіраў на полі, так цяпер збіраю словы мовы любай, мовы роднай**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 15.01 — 21.01

**(22.03. — 20.04.)** Магчымыя паводзіны, якіх пасля будзеш шкадаваць. Кантралюйся, не давай лішняй свабоды эмоцыям і пачуццям. Калі намеціш справы, спішы іх спачатку і рэалізуй. У аўторак адкрыюцца новыя магчымасці, ды перагледзь усе ходы. У сераду магчымыя непрыемныя сюрпрызы для асоб з бізнесу. У суботу трымай меру ва ўсім, асабліва пры салонай ежы.

**(21.04. — 21.05.)** Светлая паласа жыцця. Адкрыюцца новыя магчымасці, перавагі, паправа ў фінансах. Будзеш мець добрыя задумы і харызму. З 18.01. (да 22.01.) зачаруеш каго трэба. Затое магчымыя сваркі з партнёрам. Другую палову месяца запоўняць сустрэчы з сябрамі. Шыкуйся да службовых і грамадскіх выступленняў.

**(22.05. — 22.06.)** Выразная паправа ў фінансах у другой палове месяца. Знакаміты час для прапанавання рукі і сэрца, заснування аб'яднанняў і саюзаў. Карыстайся ў поўнай меры сваімі прафесійнымі магчымасцямі. У панядзелак магчымыя праблемы з уладнымі органамі. У сераду могуць вас прымусіць расплаціцца за былое. У чацвер лепш не бывай у вялікім тлуме.

**(23.06. — 23.07.)** Маеш шанц прыхіліць да сябе і саюзнікаў, і працаўнікаў. Выкарыстай усе свае перавагі, бо падобны выпадак — вялікая рэдкасць. У панядзелак прымай прапанову не адразу. У аўторак займайся інтэлектуальнай працай. У суботу вер сваёй інтуіцыі і прадчуванням.

**(24.07. — 23.08.)** 15-19.01. пазнаёмішся з людзьмі, якія пашыраць тваё гарызонты. Ды 17-21.01. перашкоды могуць расці як грыбы пасля дажджу. З 20.01. (да 24.01.) можаш пераацаніць свае магчымасці. Час невызначання ў любоўных пытаннях, непаразуменняў і раздражнення. Можа да цябе дайсці фальшывая інфармацыя. У сераду магчымая службовая паездка.

**(24.08. — 23.09.)** У трэцім тыдні зоркі могуць прынесці табе новае каханне. Найлепшыя твае дарадчыкі: інтуіцыя і ўява. Добры час для рэалізацыі творчых задум. Многа добрых ідэй, ды не рэалізуй іх адразу, бо можаш страціць грошы, асабліва ў пятніцу.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш удачлівы, паслядоўны; рацыя на тваім баку. Нядаўна новапазнаная асоба акажацца быць кімсьці зусім іншым. Да 17.01. — вялікая радасць у пары. Ды 15-18.01. пагражае табе інфекцыя. Прыемныя нечаканасці на рабоце, у справах і бізнесе. Можа павялічыцца твой капітал. Будзь толькі асцярожны з новай інфармацыяй.

**(24.10. — 22.11.)** Плутон 18-22.01. запэўніць табе большыя грошы. Можаш стараца за павышэнне, брацца за цяжкія задумы. Прыйшоў час рэалізаваць старыя планы. У гэты тыдзень вырашаюцца пытанні тваёй кар'еры; не ўпусці часу і праяві ініцыятыву. Удалыя любыя супрацоўніцтвы. Рыхтуйся да новых сустрэч (і раманаў, нават службовых!).

**(23.11. — 22.12.)** Да 17.01. — вялікае шчасце ў каханні. З 20.01. (да 24.01.) хтосьці можа даць табе дулю пад нос. Аналізуй усе падзеі, абмяркоўвай усе ходы. На гэтым тыдні магчымыя атручэнні ежай.

**(23.12. — 20.01.)** 17-21.01. будзеш мець слабую вітальнасць, не будзеш пераканаўча працаваць, настрой будзеш мець таксама не вельмі добры. Хоць чакаюць цябе прыемныя нечаканасці на рабоце, у справах і бізнесе ды павелічэнне прыбыткаў, нават калі не будзеш шмат чаго рабіць.

**(21.01. — 19.02.)** Да 18.01. магчымыя праблемы на працы, не дастанеш таго што хацеў бы. Можаш з поспехам пашукаць работу. Не будзеш наракаць на недахоп грошай. Не вер нічому, чаго не ўбачыш на свае вочы, не падпісвай непрачытаных дакументаў, не вер у скідкі ў крамах, у банкавыя ўклады пад працэнт. З 20.01. (да 24.01.) будзеш мець падтрымку зорак пры важных выступленнях, размовах.

**(20.02. — 21.03.)** Венера паможа табе ў наладжванні новых знаёмстваў і фінансавых справах. Накіруйся на паправу свайго ўласнага сацыяльнага становішча. Звярніся да эксперта. Не рашай важных спраў без сур'ёзнай парады.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

Іаанна ЧАБАН

*Фота са збораў Зіны Кішкель і Вольгі Чабан*

# Азяранская каляда

Першы раз ад нядаўняй смерці дарагой пані Любы Цітко — добрага духа Азяран-Вялікіх з'ездзілі мы з сястрой у гэтую вёску. Ледзь пераехалі жвіроўку, прыўкрашаную балотнымі калдобінамі. Каб ратаваць кепскія рысоры нашай таннай машыны, прыйшлося пакінуць яе на пачатку вёскі і прайсціся старым брукам у супрацьлеглы яе канец. Азяраны прывіталі нас цёмным, дажджлівым снежаньскім надвор'ем, апусцелымі хатамі і стадоламі, якія ад апошняга лета значна падупалі, абсоўваючыся амаль да самой зямлі. На страсе заўсёды гасціннай, жыццярадаснай хаты пані Любы сумна тырчэў мёртвы, халодны комін, на вуліцы — ні аднюй жывой душы. Два гады таму, дзякуючы пані Любе, я пазнаёмілася тут з адным вельмі разумным дзядзькам, адзінокім гаспадаром, што вёў амаль пустэльніцкі спосаб жыцця. Сёння я хацела ў яго распытацца, між іншым, пра азяранскія калядныя звычаі. Ніяк я не магла распазнаць яго хаты — нечакана ўсе выглядалі на пустыя. Надумалася папрасіць дапамогі ў цёткі Зіны, пад хатай якой стаяла адзіная на ўсю вёску машына. Дзверы адчыніў нам цётчын зяць, родны брат пані Любы, які, карыстаючыся выхаднымі, прыехаў сюды з сям'ёй. Маё пытанне пра вясковага пустэльніка яны неяк праігнаравалі, уцягваючы мяне з сястрой у забалочаных ботах у самую сярэдзіну маленькага гасціннага пакойчыка. Нечакана планы памяняліся — стол накрываўся, выходзіць ужо не выпадала і не хацелася: сваю сённяшнюю навуковую калядную экспедыцыю рашыла я правесці з цёткай Зінай. Усе прысутныя зацікавіліся тэмай, заслухаліся ва ўспаміны васьмідзесяцідвухгадовага сведкі аб далёкай і як жа непадобнай на сённяшнюю эпосе.



Сядзіць баба Вольга, стаіць з дзіцём на руках — сынам Жэнем — цётка Зіна. З другога боку яе старэйшая сястра Вера, дзяўчына Аляўціна — дачка Зіны



Цётка Зіна з дачкой Аляўцінай

У Азяранах-Вялікіх, як у большасці беларускіх вёсак, па сённяшні дзень святкуюць тры каляды: дзве посныя — перад Раждаством Хрыстовым і Крашчэннем і адну тлустую: перад Новым годам. Іх у скарачэнні называлі першай, другой і трэцяй калядамі. Канец Піліпаўскага посту быў звязаны з сур'ёзнай святочнай падрыхтоўкай. У асноўным вяскоўцы калолі парася, прыбіралі і ўкрашвалі хаты. Прыбіралі вельмі хораша, крэтай (крэйдай) бялілі ўсю сярэдзіну хаты, сцены скрозь, з гары да самага нізу, размалёўвалі кветкамі. Рабілі харошыя папяровыя рознакаляровыя кветкі-вяргіні на іконы. Да таго куплялі спецыяльную карбаваную паперу, папяровыя вянкі цвічкамі замацоўвалі на сцены кругом іконаў. На пост здымалі з покуці вышываныя ручнікі, каб на каляду памытымі, чысценькімі назад іх туды павесіць. З саломы і паперы рабілі павукі, якія вешалі над сталамі; трэба было ўмець іх вырабіць, не кожнаму гэта ўдавалася: Бараніха (Геніна свякруха) та ўсё кожны год на каляду робіць як каняна! Упрыгожвалі таксама вокны, да якіх хлебам прыклейвалі гардзіны, выцінаныя з белай бібулы.

На першую каляду ў вялікім рэшаце прыносілі сена, якое ставілі ў покуць; яго на другі дзень, наранку, дзялілі жывіне. Некаторыя клалі сена пад настольніцу. Ёлачак увогуле не было — іх пачалі ставіць у пяцідзесятыя гады дваццатага стагоддзя. Ялінку прыбіралі паперай і купленымі галоўкамі анёлаў, замест цукерак вешалі цыбулю, закручаную ў залатую паперу, бо цукеркі дзеці паядзяць.

Першая каляда была вельмі скромная, спакойная, ціхенькая. Да яе абавязваў строгі пост, людзі высцерагаліся ўсялякіх напояў і ежы. Да стала збіраліся пасля шэрай гадзіны, завяршыўшы штодзённыя гаспадарскія абавязкі (хто ўправіўся да зоркі, хто пасля зоркі; яшчэ часам сечку рэзалі да поўначы). Перад ядою на каленях гаварылі малітву „Отча наш". Свечак ніхто не запальваў, вячэралі пры газавай лямпе.

Першай, галоўнай стравай абавязкова была святая куцця — яе сам Бог прыказаў есці. Варылі яе з панцаку і маку, саладзілі хто чым меў. З мукі пяклі драждживыя блінцы, былі картоплі ў лупінах, сялёдка, кісель. Кісель варылі так: малолі муку, рашчынялі, за ноч гэта падкісала, падходзіла, назаўтра зранку гэта цадзілі, варылі, дадавалі крыху солі, палівалі алеем, скварылі цыбульку або цукрам пасыпалі. Варылі таксама кампот з сушаных яблык, груш і сліў. Амаль у кожнага быў грыбны квас на вечар. Яго варылі на рошчыне, якая заўсёды заставалася ў дзяжы, дадавалі бульбы, сушаных грыбоў і скваранай цыбулькі. Як Бог прыказаў, святочная вячэра не магла абысціся без чвэртачкі гарэлкі. Ежа на стале ніколі не начавала, як цяпер, не ставілі талерак (папраўдзе іх тады не было), елі з супольных місак.

У калядны вечар чыталі з начнога небасхілу. Казалі, што калі многа зорак на небе, то будуць куры добра несціся, а калі яно цёмнае, дык каровы многа малака дадуць.

Не было тут звычаю калядавання як такога. З гвяздою па хатах ніхто не хадзіў, але калядкі замужнія жанчыны ўсялякага ўзросту спявалі штодзень, збіраючыся па хатах на працягу ўсіх Святых вечароў, якія працягваліся ад Каляд да Крашчэння. Гэтымі вечарамі рабіць забаранялася.

Варажбой у асноўным займаліся на другую, тлустую каляду. Новага года па новаму стылю тут ніхто не адзначаў, бо ў Азяранах-Вялікіх было больш рускіх, як польскіх. Польскіх было толькі шэсць хатак, а вёска была вялікая. Чаго ж толькі перад Новым годам тут не рабілі: жураўля ад студні цягалі — апускалі яго ўніз і як даставалі, то прыслухоўваліся, дзе ён зарыпіць, а яшчэ з каторага боку сабака будзе гаўкаць — з таго боку меў прыехаць кавалер. Дзеўкі ставілі туфлі ад стала да парога — каторай першы на парозе стане, тая і найхутчэй замуж пойдзе. Клалі пад падушку лісткі з напісанымі імёнамі хлопцаў: які сярод ночы выцягне, за таго і замуж пойдзе. Чаго тут дзяўчаты не навыдумлялі: штыкеты абымалі і лічылі: пара — на пару, як лішка — то ўжо адзін, прапаў! Хадзілі па суседскіх хатах, каб дроў нацягаць — свайго ніхто не браў, ды ніхто за гэта не крычаў — прыносілі вялікае бярэмя ў сваю хату і лічылі: як выйшла пара, то ўжо больш не хадзілі. Горш як да пары не далічыліся, тады другую гурбу неслі. Цягалі тыя суседскія дровы, пакуль пара не выйдзе! Была такая Саня — Геніна маці. Яна бедная была, а нас было шэсць ці восем дзяўчат. Мы тых дроў столькі наносім, што яна хіба з два месяцы паліла імі ў печы! Ніхто не ганяў, ведалі, што гэта быў такі жарт. Гульбішчам не было канца: курыцу з седала прынясуць у хату, паставяць люстэрка і дзве пасудзінкі з вадой і зернем. Чакалі, да чаго спярша падыдзе тая курыца: як да збожжа — суджаны будзе гаспадаром, як да вады — п'яніцам, а як да люстэрка курка падыдзе паўзірацца — будзе пан міністар! А яшчэ сабаку кармілі: кожная дзяўчына клала яму ў міску блін; каторай блін сабака першым з'еў, тая найхутчэй замуж пойдзе. Тады ўжо гульня раскідвалася, бо ўсе пачнуць смяяцца і пайшлі! Маладых многа было, жартавалі, смяяліся, дзяўчаты запрагалі ў сані замест коней хлопцаў, каб іх вазілі, а то зноў дарожку праз усю вёску попелам высыплюць да нарачоных. Было і такое: дзяўчаты стукалі палкамі па вуглах, вуха прыкладвалі да акна і слухалі гаспадара. Як скажа „ідзі, ідзі", ох яна тады паляціць, а як скажа „сядзь", сядзі там крыцаю — то ўжо забярэшся і пойдзеш... Тады другая ідзе стукаць, убачыўшы, што першая са спушчаным носам вяртаецца. Тыя жарты толькі дзяўчаты выраблялі — усё вельмі ім замуж хацелася, хлопцы толькі ў кампаніі хадзілі: „ён і так ажэніцца, толькі дзеўчына скача". Увесь год чакалі гэтых жартаў і гульняў. Увечары пачыналіся танцы, хлопцы гадзілі музыкантаў, потым клікалі дзяўчат. Яны пазбіраюцца, сядзяць, выглядаюць, калі тыя запросяць іх на забаву. Гулялі да раньня. Музыканты прыязджалі з Ласінян: гарманіст Толік Дарошка, скрыпач Раманікаў Сяргей, з Малых Азяран: Зюта, Ганадзік, былі і крушынянскія, нават з паўсвету, бо аж з Мастаўлян іх прывозілі. Ведалі ўсялякія танцы, у тым ліку польку, вальс, абэрак, кракавяк, яблычка, каробачку, лысага, страданне — чаго там не было! Умелі весяліцца, бо ў кожнай радзіне было па многа людзей, грошай не было, ніякіх пенсій — слаба жылі. Цяпер грошы маюць, але аднэ з аднымі не гавораць. А тады суседзі да суседзяў хадзілі, весяліліся, гаварылі, смяяліся...

Трэцяя каляда — крашчэнская, пачыналася сачэўнікам — закупленай у царкве дзяўчатамі абедняй. У дзень свята ўсе разам з бацюшкам ішлі ў азяранскую царкву свяціць ваду. Рабілі Ярдан: выціналі з лёду стол і крэст, пускалі галубэ. Па ярданскую ваду прыходзілі сюды і суседнія вёскі: Ніпарожнаўцы, Малыя Азяраны. Пры саветах таксама дазвалялася святкаваць, тады бацюшку з Галынкі прывозілі. Цяпер ужо так не робяць — няма каму, свята прапала...

Час хутка збег пры слуханні каштоўных расказаў. Па дарозе да самахода нас з сястрой запыніў мужык з папяросай у пальцах, спаленых тытунём на бронзу — запрашаў да сябе ў госці. На наша пытанне пра азяранскага пустэльніка дзядзька адказаў, што той кончыўся ўжо год таму.

ISSN 0546-1960